


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 26 (3189) Год LXII | Беласток, 25 чэрвеня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# V «Пікнік з беларусам» - малы юбілей

**V «Пікнік з беларусам»** гэта наш малы юбілей. З гэтай нагоды выступаюць новыя калектывы і салісты, якія раней на пікніку не прэзентаваліся. Гайнаўскія дзеткі і моладзь спяваюць па-беларуску, прэзентуюць нашы народныя танцы. У сваіх школах вучацца яны роднай мове, культуры і традыцыям. Рашыліся яны паказаць беларускамоўны рэпертуар публіцы нашага пікніка, — сказаў настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі, старшыня Аб'яднання «Наша школа», якое ў пачатку 2013 года заснавалі настаўнікі і бацькі вучняў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Стала яно дзейнічаць пры белліцэі і белгімназіі і штогод ладзіць «Пікнік з беларусам». *Беларусам* гайнаўская моладзь называе белліцэй і белгімназію. Новае мерапрыемства арганізуецца перш за ўсё з думкай пра гайнаўскіх школьнікаў, якія вучацца беларускай мове. Але яно адкрытае таксама на іншых жыхароў пушчанскага горада. У мінулых гадах пікнік з-за дрэннага надвор'я адбываўся ў школьнай актавай зале. Сёлета 9 чэрвеня было сонечна і цёпла. Публіка глядзела выступы калектываў і салістаў на вялікай сцэне, саграваючыся на сонцы, або хаваючыся ў цяньку.



— Аб'яднанне «Наша школа» заснавалі мы дзеля аказання дапамогі Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і садзеяння развіццю беларускай мовы і культуры. Штогод, пачынаючы з 2013 года, наша аб'яднанне арганізуе «Пікнік з беларусам» і Конкурс беларускай гавэнды, а з дапамогай Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы ў яго памяшканнях аб'яднанне ладзіць Мастацкія сустрэчы школьнікаў. Мы арганізавалі веласіпедны рэйд па Белавежскай пушчы. Падчас пікніка вядзецца прамоцыя нашага белліцэя, куды запрашаем на адукацыю, — сказаў настаўнік **Ян Карчэўскі**.

— Мая дачка Кася вучылася ў белліцэі і я тады ўключылася ў дзейнасць Аб'яднання «Наша школа». Арганізуючы мерапрыемствы, мы карыстаемся фінансавай падтрымкай дзяржаўнага і самаўрадавых бюджэтаў, бацькоўскага камітэта школы і спонсараў. Самае важнае ў нашай дзейнасці — прапагандаванне беларускай культуры і нашых традыцый з думкай аб дзетках, моладзі і дарослых, — заявіла намеснік старшыні аб'яднання **Валянціна Галадык**.

Перад публікай выступілі дзеткі з калектываў «Калебка» Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы (апекуны Міраслава Ніканчук і Ала Супрун) і «Сундучок» з Праваслаўнага прадшколля свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы (апякун Анна Мускала), якія ўдала праспявалі беларускія песні. Публіку захапілі «Сунічкі» з Белавежы (акампаніятар Марк Зубрыцкі, апякун Анджаліна Масальская) і новастворany беларускі калектыў Комплексу школ № 1 у Гайнаўцы (апякун Анна Франкоўская). Асаблівую зацікаўленасць выклікаў выступ новастворанай танцавальнай групы Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. З маладымі танцорамі займаецца спецыяліст па класічных танцах Вольга Вілюк.

— Наш калектыў дзейнічае толькі з сакавіка гэтага года. Мы развучылі ўжо «Лявоніху» і іншыя беларускія танцы, якія прэзентуем у праграме «Кірмаш». Займаемся два разы ў тыдзень па паўтары гадзіны. Хаця заняткі патрабуюць вялікай фізічнай актыўнасці, то падчас іх хутка мінае час і мы рады, што пані Вольга Вілюк многаму нас навучыла. «Пікнік з беларусам» гэта беларускае свята. Дзеткі, моладзь і дарослыя добра тут адпачываюць, — распавяла белліцэістка **Наталля Васько**.

У ходзе пікніка цікава запрэзентаваліся мажарэткі мясцовага духавога аркестра. Публіку зацікавіла сваім выступам скрыпачка Ганна Мацкевіч з Мінска, якая на Гайнаўшчыне займаецца ў тэатральным праекце «Вэртэп». Удала спявала вучаніца Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы Зося Філіпюк, якая прыбыла на мерапрыемства са сваёй настаўніцай беларускай мовы Марыяй Крук. Займальна з беларускімі песнямі выступіў беларускі калектыў «Знічка», у якім займаюцца белліцэісты і белгімназісткі.

— Мы на пікнік падрыхтавалі новыя песні, праспявалі таксама старыя творы. Мы рады, што публіцы падабаюцца нашы выступы, — заявіла музычны кіраўнік «Знічкі» **Бажэна Вінцонак**.

— Гэта Барташ Васілюк з нашага калектыву запрапанаваў новую харэаграфію. Цяпер мы выступаем у новым складзе і ўжо зжыліся з сабой. У «Знічцы» добрая атмасфера і цешыць нас, што публіка станоўча ўспрымае нашы выступы, — сказала Наталля Васько.

Вядучыя пікнік настаўнік Ян Карчэўскі і белліцэістка Ганна Хомчук аб'явілі конкурс ведаў аб жыцці беларусаў Беласточчыны. На сем пытанняў два тычыліся тыднёвіка «Ніва», астатнія — белліцэя і астатніх школ, у якіх вядзецца навучанне беларускай мове, беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў культуры. Трэба было яшчэ скласці рэкламу для Гайнаўскага белліцэя, або аб ім расказаць. Вучаніца Ганна Хомчук пахваліла ідэю беларускага мерапрыемства на вольным паветры. Чутны здалёк беларуская песні прыцягвалі аматараў сваёй музыкі.

— Беларуская мова блізкая нам усім. Глядзячы на выступы па-беларуску на сцэне хочацца сказаць, што беларуская мова не загіне. Я зычу Аб'яднанню «Наша школа», каб выступала з новымі прапановамі і дачакалася 50-годдзя сваёй працы, — гаварыла старшыня Бацькоўскага камітэта белліцэя і белгімназіі **Люцына Рушук**, заадно старшыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія.

— Словы падзякі належацца настаўніку беларускай мовы Яну Карчэўскаму, старшыні Аб'яднання «Наша школа», каб «Пікнік з беларусам» і іншыя мерапрыемствы, арганізаваныя аб'яднаннем, падчас якіх прамуюцца беларуская мова і культура, праходзілі паспяхова, — сказаў дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Яўген Сачко.

Пікнік удастоілі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, віцэ-староста Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская і настаўнікі. Намеснік дырэктара Ніна Лукасік пахваліла выступоўцаў і ўсю моладзь прысутную на пікніку за актыўны ўдзел у мерапрыемстве. Белліцэістка Анна Бляяўская спявала па-беларуску пад акампанемент гітары.

— У вольны час я іграю на гітары. Пачуў гэта Ян Карчэўскі і запрапанаваў мне выступіць на пікніку. Гэта для мяне новы досвед. Я заспявала твор Віктара Шалкевіча. Гэта быў мой сольны дэбют на беларускай мове. Мне вельмі падабаюцца песні Зміцера Вайцюшкевіча. Мне хацелася б праспяваць яшчэ яго песню «Муры», але не паспела падрыхтавацца, — сказала Анна Бляяўская, якая ўжо тры гады займаецца ў Студыі песні Гайнаўскага дома культуры.

Вучань Тамаш Дружба зайграў перад публікай на акардэоне. Зоркай пікніка аказаўся гайнаўскі калектыў «Давід Шымчук Бэнд», у якім выступаюць вучань і выпускнік Гайнаўскага белліцэя.





■ Белліцэістка Анна Бляяўская спявала па-беларуску пад акампанемент гітары

— Мы стварылі беларускі калектыў, дабіваліся поспехаў на фестывалі «Беларуская песня» ў Беластоку, выступаем на мерапрыемствах з беларускім рэпертуарам, — гаварыў лідар калектыву **Давід Шымчук**.

Калектыў «Давід Шымчук Бэнд» выконвае перш за ўсё агульнавядомыя творы ў сваёй апрацоўцы, часткова мяняючы тэкст песень. Давід Шымчук са сцэны запрапанаваў публіцы танцы. Спачатку пад музыку яго гурта пачалі танцаваць вучні, а пасля далучыліся да іх настаўнікі белліцэя і бацькі вучняў. Удзельнікі пікніка частаваліся каўбаскамі з грыля.

— Мы рады, што ёсць многа ахвотных спажываць каўбаскі і іншыя мясныя стравы, бо грыль, побач песень і танцаў, таксама падстава пікнікаў, — сказала настаўніца англійскай мовы **Агнешка Ліпінская**, адказная падчас пікніка за грыль.

— Я прыехала сюды, каб паслухаць беларускія песні і паглядзець беларускія танцы. Мая дачка Малгажата выступала ў танцавальным калектыве і спявала ў «Знічцы», — сказала **Анна Галёнка** з Пасечнік.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Лета

Большасць людзей чакаюць менавіта гэтай пары года. Адны, каб з'ездзіць куды адпачыць, другія, каб пакапацца на лецішчы, іншыя проста, каб пагрэцца на сонцы. А для большасці беларусаў немалаважным зя'ўляецца і той факт, што летам трэба менш плаціць за камуналку. Тут, як гаворыцца, кожнаму сваё. Але менавіта лета самая чаканая пара года.

Яно доўга не прыходзіць, і хутка зыходзіць, прычым кожны раз нечакана. Зрэшты, лета гэта яшчэ і добры індыкатар вызначэння дабрабыту як кожнага асобнага чалавека, яго сям'і, так і дзяржавы ў цэлым. Ні для каго не сакрэт, што менавіта чыноўнікі і іншыя дзяржаўныя служачыя, а таксама і людзі, не толькі надзеленыя ўладай, але і больш-менш блізкія да яе, выкарыстоўваюць гэтую пару года напоўніцу. Гэта сапраўды іх час. Яны бяруць сабе тады адпачынкі, у іх ёсць сродкі, каб наведаць экзатычныя месцы планеты з камфортнымі гатэлямі і рэстаранамі з разнастайнай кухняй і, самае галоўнае, з поўнай адсутнасцю рускамоўных турыстаў.

Для рускамоўных асобныя гета. Як правіла гэта берагі Турцыі ды Егіпта, і канешне ж, не турыстычная паездка па Ніле з ветлівым англійскамоўным гідам, які значна пашырыць вашы веды не толькі пра Егіпет, але і пра старадаўні свет увогуле, а прыбярэжныя гатэлі, дзе, як кажуць самыя шчаслівыя рускамоўныя турысты: „Усё ўключана!".

Усё! Вось яна мара для чалавека з невялікім грашовым заробкам і з яшчэ меншымі прэтэнзіямі на пашырэнне гістарычных і геаграфічных пазнанняў. Еш колькі хочаш, а самае галоўнае колькі хочаш пі. За ўсё ўжо заплачана. І галоўная задача адбіць выдаткаваныя на гэты турыстычны адпачынак грошы хоць нейкім чынам. А каб іх адбіць, то столькі з'есці немажліва. А вось выпіць — працей простага.

І тут трэба адзначыць, што рускамоўнага беларускага турыста становіцца менш. Большасць беларусаў прыйшлі у гэтае лета з прымаўкай: „Ні да жыру, хоць бы выжыць". І пахвальных расповедаў пра тое, што наша турыстычная кампанія адных алкагольных напояў выпіла ў два разы больш чым каштаваў іх тур, становіцца ўсё менш. Хіба што гэта найбольш яскравы паказчык дабрабыту грамадства.

Але з дабрабытам народа і так усё зразумела было і без гэтага. Гэтым разам цікава стала тое, што мы бачым летнюю актыўнасць беларускага чыноўніка не на пляжах Мальдзіваў, а ў сваіх кабінетах. І яны, няшчасныя беларускія чыноўнікі, ці прынамсі хаця б частка з іх, пра заморскія берагі гэтым летам і не мараць. І тут, як кажуць у народзе, становіцца зразумелым што не так усё добра „ў дацкім каралеўстве". Закончыліся, відаць, там грошы, а браць больш няма дзе. А ён, чыноўнік, мусіць прыдумаць дзе. І вось ужо паляцелі грамадзянам „самай сацыяльнай краіны" новыя „лісты шчасця". Іх сэнс зразумелы. Можна нават канверт не адчыняць. Грошы плаціце, а за што — прыдумайце самі.

Пра які замежны турызм можа ісці гаворка у такой сітуацыі? Тут ужо галоўная задача да сябе замежных турыстаў прывалачы. І візы ім адмянілі, і па вышэйшым загадзе беларускія бліны навучыліся пячы, і ўвогуле перасталі цурацца словазлучэння „беларуская кухня"... А праўладная Ліберальнадэмакратычная партыя Беларусі вуснамі свайго лідара заявіла, што будзе ставіць пытанне пра легалізацыю герба „Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга як духоўнай каштоўнасці... Відаць, зразумелі, у краіну з якімі сімваламі паедуць замежнікі.

Так і да беларускай мовы дойдзе. Хоць яшчэ нядаўна сцвярджалі, што ад беларускай мовы каўбасы больш не стане. А яе не стала больш ад рускай мовы, пры ўсім яе падмацаванні падачкамі, танным газам і агульнай мытнай прасторай.

Ну вось натуральным чынам, без рэвалюцый і рэзкіх рухаў падыходзім мы да таго часу, калі замест турыстычнай паездкі і беларускі чыноўнік, і звычайны грамадзянін разам сядуць вывучаць родную мову.

А лета ўсяго толькі пара года. І людзі, якім за 50, як і аўтару гэтых радкоў, добра ведаюць, што хутка пралятае не толькі яно, але і вясна, і восень, і зіма таксама. І таму трэба спяшацца ў гэтым жыцці зрабіць хоць што-небудзь правільна. Напрыклад, вывучыць родную мову.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Не па-авечаму



Завядаюць макі ў маім агародзе — цудоўныя агеньчыкі на фоне манатоннай зелені, якая пры працяглых зносінах стамляе, мучыць, раздражняе. Гэтыя марненькія макі, толькі дзве абвялыя кветкавыя галоўкі — дабратворныя для агарода. Яны дастаюць яго з банальнасці. Быццам сакралізуюць дэкор прыгнятальнага фону. Пераацэньваюць яго паўтаральнасць, прадказальнасць, штодзённасць. Падымаюць увысь. Таксама дазваляюць убачыць іншасць у новай карціне. І нават калі гэта вар'яцтва.

Слова вар'ят паходзіць ад лацінскага *varius* — іншы. Быць іншым, але не сышоўшым з розуму, разумова адсталым — гэта вялікі выклік. Быць мастаком, ідучым за сваёй творчай інтуіцыяй, парушаючы абавязваючыя каноны мастацтва, вучоным, парушаючым метадалагічныя догмы і ў рэшце рэшт звычайным чалавекам, які не хоча ісці па шляху казіная статку..., ну, няхай будзе авечага — гэта вялікі выклік. А ў падзеленай Польшчы — не ў Чацвёртай ці іншай чарговай Рэчы Паспалітай Абодвух аповедаў, незалежна ад таго, ці каталіцка-нацыянальнай, ці вальнадумнай, ці дасмаленскай, ці паслясмаленскай, але ў цяперашняй Польшчы, разбоўтанай у падкоркавай магме як лава Міцкевіча, гэта не толькі выклік. Гэта таксама маніфест іншасці зверху асуджаны на насмешку і пераслед. Гэта крык свядомага сябе вар'яцтва. Гэта, калі ласка, прабачце мне вялікія слова, акт гераічнай мужнасці, за якім стаіць непахісная заява нязгоды. Не толькі на нацыянальную вайну казлоў з авечкамі. Не толькі на прагрэсуючую клерыкалізацыю грамадскага жыцця. Не толькі супраць Касцёла, якому даспадобы руханцавае рэлігіянцтва чым сардэчная рэлігійнасць, узнёслая пустая гаварыльня чым сведчанне ісціны. Не выключна нязгода на спрэчкі палітычных лагераў, грубую ідэалагічную ці светапоглядную маніпуляцыю. Нарэшце, гэта нязгода на выключна звычайны авантурызм, жорсткае лупцаванне па чэрапах, брудныя паклёпы, знявагі, цынічнае плявузганне і ўсе гэтыя гульні чалавечых звяркоў і звяроў, якімі незаўважна становімся ці ўжо сталі. Гэта таксама нязгода на хаванне галавы ў пясок, пасродкавасць, нядбайнасць, абыякавасць, апатыю, разумовую лянноту і грамадзянскую баязлівасць. Але перш за ўсё гэта прызнанне веры, што іншасць, вар'яцтва ва ўсёй ненармальнай нармальнасці, у рэшце рэшт пераможа. Несумненна.

Кажуць, чалавек ужо ў дзяцінстве стварае свой «лад жыцця» — гэта самае асабістае разуменне жыцця, якое заўсёды ставіць чалавека на сваім фоне. Ад гэтага стылю залежыць кірунак далейшай дзейнасці і мэт, пастаўленых сабе. Жыццё *іншага* ўжо на сваім пачатку адзначана выхадам з фону, было, ёсць і будзе разбурана з-за гэтага. Гэта па-чартоўску балюча. Але і разбуральны стан становіцца ў нейкім сэнсе безумоўным выклікам, з якім чалавек павінен справіцца. Я падкрэсліваю слова „павінен". Гэта не з'яўляецца абавязкам. Не доўгам, але толькі абраным кірункам па-за гарызонт — на столькі мала канкрэтны, што за гарызонтам размываецца тапаграфія пазнавальнай арыентацыі. Так што трэба вызначыць свой шлях, што прыносіць шмат пакут. «У пакуце і мучэнні знойдзеш шчасце і спакой» — цытую па памяці тут «фаўстаўскае» пасланне Гётэ. Дарэчы, Фаўст азначае «шчаслівы». У гэтым сказе маецца хвалюючая канцэпцыя чалавечага існавання, атрыманая ад хрысціянскай думкі — dolor existentiae — гэта значыць: усё, што баліць і дазваляе жыць. Такім чынам: пакуты, той экзістэнцыяльны боль, пачуццё іншасці, гэта толькі артэфакты абранага «ладу жыцця». І таму трэба іх цягнуць ужо да канца. Дзіўна, але тады можна атрымаць унутраны спакой. І гэта неабходна, каб мець адносную свабоду ад ціску рэальнасці.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Няўпэўненасць меншасцей

Чым больш жыву, тым менш я разумею. Не вядома, якую мерку прыкласці да таго, што бурліць вакол нас і непасрэдна нас кранае. Перад Вялікаднем пісаў я пра тое, што бюракратыя можа даканаць, між іншым, і актыўнасць арганізацый нацыянальных меншасцей. Зараз, калі прыходзіцца рэалізаваць справаздачнасць выдавання «Нівы» паводле новых указанняў, то рукі проста апускаюцца ад бяссільнасці. Без кемлівага бухгалтара і адміністрацыйнага працаўніка зараз увогуле не прыступай да рэалізацыі якой-колечы задумы ў выглядзе любога праекта. А адкуль браць арганізацыям і людзям грошы на зарплату для тых жа асоб? Функцыянаванне арганізацый на грамадскім энтузіязме, здаецца, належыць ужо мінуламу часу. А што прыдумае юрыдычная, дзяржаўная машына наконт наступных гадоў, аж страх думаць. Пры такіх патрабаваннях судовыя разбіральніцтвы паміж дзяржавай а нацыянальнымі меншасцямі выдаюцца непазбежнымі. Непазбежнай у такой сітуацыі будзе і затуханне дзейнасці, бо хто па ўласным жаданні накіне сабе пятлю на шыю. Каму патрэбныя клопаты, бо ж здаўна вядома, што з дзяржавай лепей не барукацца. Ужо сёння ступень напружанасці паміж паасобнымі меншасцямі і Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі пачынае набываць міжнародны прававы кантэкст. Што з гэтага атрымаецца, невядома. Аднак пра чорны сцэнарый пачынаюць паміж сабою штораз часцей пагаворваць людзі спрактыкаваныя ў гэтых справах. Увогуле ахвярай бюракратычных кляшчоў і міністэрскай палітыкі могуць стаць прэса і выданні нацыянальных меншасцей. Без павелічэння фінансавых сродкаў чакае іх растучая задоўжанасць, якая прывядзе да звычайнага банкруцтва. І ўсё будзе адбывацца на фоне польскага і еўрапейскага заканадаўства, якое тэарэтычна гарантуе ўсебаковае развіццё і падтрымку. Але не падтрымку ў рэальным фінансавым вымярэнні, якое ад даўжэйшага часу не павялічваецца. Ці ўдасца прадстаўнікам нацыянальных меншасцяў у супольнай з урадам камісіі знайсці выхад з бюракратычнага і фінансавага тупіка — пажывем, пабачым. Але вядома, што ўсе інструменты знаходзяцца ва ўрадавых руках. Ці хопіць міністэрскім чыноўнікам адвагі і дальнабачнасці ў справе сваіх грамадзян няпольскай нацыянальнасці, адказаць цяжка. Геапалітычнае месца Польшчы і сённяшняя ўнутраная і вонкавая сітуацыя ў гэтай часткі Еўропы, штораз часцей з нацменшасцей робіць заложнікаў унутры краіны. Гэта здаецца быць тым фактарам, які на грамадзянскую актыўнасць любой меншасці некаторым палітычным і медыйным асяроддзям дазваляе ставіць розныя абсурдныя падазрэнні і абвінавачанні ў наш адрас.

Зараз кожная спроба дыскусіі пра гістарычнае мінулае паміж большасцю і меншасцю разглядаецца выключна толькі з польскага пункту гледжання. І ўсе нашы аргументы і факты не маюць аніякага значэння, бо мусяць саступіць польскай рацыі стану і «stanu wyższej konieczności historycznej». Як былы настаўнік гісторыі з пэўным хваляваннем чакаю новай гістарычнай асновы ў навучанні гэтага прадмета ў сувязі з рэформай асветы. Ну і як будуць напісаны чарговыя падручнікі наконт польска-беларускіх суадносін і нашай меншасці — гэта таксама вялікая невядомая. Даходзяць чуткі, што спосаб дэкларавання бацькамі жадання навучаць іх дзяцей беларускай мове будзе мець абавязковае пацвярджэнне з боку дырэкцыі, што ад такога навучання можна адмовіцца. Пры нашай дэмаграфічнай катастрофе і моцнай асіміляцыі такі падыход можа зменшыць і так кволы лік навучэнцаў. Памятайма яшчэ і пра непасрэдную залежнасць адукацыйнай сістэмы ад войтаў, бургамістраў і старастаў. Задзейнічаны з іхняга боку адміністрацыйны рэсурс ці выразна адкрытая непрыхільнасць да навучання па-беларуску, дзякуючы такім рычагам можа вельмі моцна паўплываць на многіх бацькоў. Асабліва ў той гміннай рэальнасці, дзе самаўрадавыя структуры з'яўляюцца практычна адзіным месцам працы на гэтай тэрыторыі. Памятайма і пра той фактар пры самаўрадавых выбарах у наступным годзе

**Яўген ВАПА**

Фота Аляксандра Вярбіцкага



# Пярэдняя дамба супраць беларусаў

**Патрэбная вада для Беластока. У 1964 годзе былі праведзены гідралагічныя даследаванні былога Беластоцкага ваяводства, якія выказалі значны дэфіцыт басейна ракі Нарвы. На гэтай падставе нарадзіўся план пабудовы меліярацыйнага аб'екта, у склад якога ўваходзілі паасобныя гідратэхнічныя збудаванні. План пабудовы меў перааараць беларускі арэал Беласточчыны, заліваючы вадой не толькі пяць вёсак будучых Нараўчанскай і Міхалоўскай гмін, але і іншыя ў Гарадоцкай і Супрасльскай гміне, кудою меў плысці канал Нарва — Супрасль. Прама праз курганы вёскі Меляшкі, якой больш за 500 гадоў. Беларускай.**

## Частка публічнага плана

Канчаткова быў зацверджаны рэалізацыйны план „Вадасховічша Семяноўка і Канал Нарва — Супрасль. Рашэнне (№ AS.42./II/III/1/75) 16 ліпеня 1976 г. выдаў беластоцкі ваявода. Важным у гэтым мерапрыемстве быў праект выкананы Цэнтральным бюро даследаванняў і праектаў водных меліярацый і забеспячэння сельскай гаспадаркі ў ваду ў Варшаве ад 26 мая 1976 г., выкананы Францішкам Палысам („праект Палыса"). Цяпер гэта фірма называецца Бюро даследаванняў і праектаў воднай гаспадаркі BIPROMEL — фірма не дзяржаўная, а суполка з сядзібай у Варшаве. Выканаўцам праекта была Ваяводская ўправа Сельскагаспадарчых інвестыцый у Беластоку — ВУСІ (цяпер гэта Ваяводская ўправа меліярацыі і водных установак у Беластоку).

Пабудова пачалася ў 1976/1977 гадах. Уздыманне вады працягвалася ад 1988 года да 1993 г. Вадасховішча Семяноўка як частка публічнага плана была афіцыйна здадзена ў карыстанне ў 1995 г. У дакументацыі, якая знаходзіцца ў справе, а якая паходзіць з таго часу, адназначна пацверджана, што **публічнай мэтай**, якая мела быць дасягнута праз пабудову гэтага рэалізацыйнага плана, быў „Zbiornik Wodny Siemianówka i Kanał Narew — Supraśl". На яе складаліся ўсе будаўнічыя гідратэхнічныя інвестыцыі, якія мелі на мэце забеспячэнне ў ваду сельскай гаспадаркі і прамысловасці Беластока.

Такая ж мэта была пазначана ў лісце ВУСІ ад дня 16 лютага 1976 г. (ZIR.M.402/7/3/76), дзе адзначана, што „асноўнай мэтай вадасховішча з'яўляецца збор вады для патрэб сельскай гаспадаркі і забеспячэння ў ваду Беластока. Побач асноўных функцый можа быць яно выкарыстана для іншых мэт, м.інш. служыць для турызму. Абсяг дадатковых функцый мае быць падпарадкаваны ўмовам, якія вынікаюць з рэалізацыі асноўнага задання".

Інвестар, пачынаючы пабудову, меў ясна намечаную ўрбаністычную і архітэктурную мэту і ведаў, на якой тэрыторыі маюць узнікнуць паасобныя будаўнічыя інвестыцыі, якія стваралі цэласць публічнага **плана.** Прытым вадасховішча Семяноўка не магло б функцыянаваць без рэалізацыі чарговых будаўнічых інвестыцый, з якіх адной з'яўляецца галоўная дамба (**zapora czołowa**). Заданнем вадасховішчаў з'яўляецца **збор вады** для публічных мэт. Мэтай была пабудова вадсховішча, як і **канала**, які меў бы спалучаць вадасховішча з атрымальнікамі вады.

Гэтая мэта не была ніколі дасягнута, паколькі не быў пабудаваны канал Нарва — Супрасль. Лагчына вынікае з гэтага, што асноўнай мэтай вадасховішча з'яўляецца рэтэнцыйная функцыя. Мэтай публічнага плана былі: пабудова і ўтрымліванне публічных прылад, служыўшых для забеспячэння насельніцтва ў ваду, збор, перадача, ачышчанне і адвод сцёкаў і збор ды ўтылізацыя адходаў, у тым ліку і іх складванне ды „пабудова і ўтрымліванне аб'ектаў, якія служылі б



Фота Аляксандра Вярбіцкага

ахове асяроддзя, сховішчам іншых водных прылад для забеспячэння ў ваду, рэгуляцыі наплываў і адплываў, ахове перад затапленнем, а таксама рэгуляцыі вады і прылад водных меліярацый, якія з'яўляюцца ўласнасцю дзяржаўнай казны або адзінак тэрытарыяльнага самаўрада". Ды цэласць плана не была рэалізавана.

Жыхары Лукі, экспрапрыяваныя з іх будынкаў, гаспадарак і зямлі, перакананы, што ў выпадку невыканання публічнага плана — а пабудавана адно вадасховішча, якое толькі збірае ваду без магчымасці далейшай перадачы яе да карыстальнікаў — іх **высяленне было немэтазгодным**. Пабудова вадасховішча мела служыць публічнай мэце — забеспячэння ў ваду 31 гектара ўгоддзяў распаложаных у далінах ракі Нарвы і Супраслі і забеспячэння ў ваду жыхароў і прамысловасці горада Беластока. Канал Нарва — Супрасль, даўжынёй 17 км, ніколі не ўзнік.

Рэалізацыя рашэння Беластоцкага ваяводы AS.42/II/III/I/75 ад 16 ліпеня 1976 г. была падзелена інвестарам на інвестыцыйныя этапы, якія мелі быць рэалізаваны чаргова з экспрапрыяцыяй гаспадарак і грунтаў. І не толькі вёсак якія апынуліся пад вадой Смяноўскага вадасховішча. У лісце з дакументацыі ад 21 верасня 1976 года, які выканала ВУСІ (ZIR.M-402?zb.S/4976) вынікае, што экспрапрыяцыі праводзіліся згодна з этапамі рэалізацыі будаўнічых гідратэхнічных работ. З гэтага вынікала таксама, што пабудова чашы вадасховішча мела быць апошнім этапам у чарзе. Намерам інвестара была пабудова чаргова: этап I — экспрапрыяцыя пад пярэднюю дамбу і базу інвестара ў 1976 г., II і III этап — экспрапрыяцыя на тэрыторыі бакавых дамб Семяноўкі і Баб'яй-Гары ў 1977 г., этап IV, V — экспрапрыяцыя ў раёне бакавых дамб вёсак Цісоўка, Буды, Бахуры ў 1977-1978 гг., этап VI — экспрапрыяцыя вёсак у раёне канала Нарва — Супрасль у 1978-1979 гг, этап VII — экспрапрыяцыя пад чашу вадасховішча ў 1978-1981 гадах разам з перасяленнем гаспадарак.

Выкананне прац у цэласці давала гарантыю рэалізацыі **публічнай мэты** вадасховішча і канала паводле рашэння AS.42/II/III/1/75, на падставе якога інвестар мог рабіць экспрапрыяцыю нерухомасцей, палічыўшы гэта ў экспрапрыяцыйна-кампенсацыйным рашэнні для паасобных жыхароў вёсак, дзе рэалізаваліся тыя рашэнні. Публічная мэта, паводле канстытуцыі, гэта такая, якая служыць усім жыхарам, прызначана ўсім, **даступная** для ўсіх. Паводле 21 арт., уст. 2 Кастытуцыі „**wywłaszczenie**" дапушчальнае толькі тады, калі адбываецца яно на публічную мэту і са слушнай, адпаведнай кампенсацыяй. Экспрапрыяваныя нерухомасці былі перадаваныя ВУМіВП — як кіруючая меліярацыйнай пабудовай мела пра іх дбаць і пільнаваць усіх юрыдычных спраў звязаных з імі. З часткі дакументаў вынікае, што немалая частка экспрапрыяваных нерухомасцей была на пачатку 90-х хадоў палічаная **за лішнюю і непрыдатную** на мэту звязаную з экспрапрыяцыяй і перадалі яе гміне Нараўка. Шмат гадоў з гэтымі нерухомасцямі нічога не адбывалася, аднак ад нейкага часу войтам Нараўчаскай гміны вядуцца змены плана прасторавага гаспадарання і прызначэння гэтых грунтоў.

Фіналізацыяй гэтых дзеянняў з'яўляецца продаж гэтых зямель Нараўчанскай гмінай асобам не звязаным з месцам. Дзве такія нерухомасці — участак № 926 абшарам 0,18 га які ляжыць у былой вёсцы Лука, якраз прадаецца, незалежна ад таго, што ёсць спадчыннікі гэтай зямлі, зацікаўленыя ў вяртанні на сваю родную зямлю, а ўчастак № 939 абшарам 0,17 га прададзены ўжо ў 2007 г. Такіх нерухомасцей шмат.

А спадчыннікі маюць **права вярнуць** сабе родную зямлю, калі яна не была выкарыстана на мэту, якая ўказана ў рашэнні пра экспрапрыяцыю. Гэтак вынікае са зместу арт. 136, уст. 1 і 2 закона ад 21 жніўня 1997 г. пра гаспадарку нерухомасцямі (Dz.U. 2004, nr 261, паз. 2603 з пазнейшымі зменамі): „Экспрапрыяваная нерухомасць не можа быць ужытая на іншую мэту чым названая ў рашэнні аб экспрапрыяцыі, пры ўліку арт. 137, хіба што папярэдні ўласнік ці яго спадчыннік не пададуць заявы аб вяртанні гэтай нерухомасці" ды „ў выпадку рашэння намеру выкарыстання экспрапрыяванай нерухомасці або яе часткі на іншую мэту чым названая ў рашэнні аб экспрапрыяцыі, адпаведны орган паведамляе папярэдняга ўласніка або яго спадчынніка аб гэтым намеры, інфармуючы адначасова аб магчымасці вяртання экспрапрыяванай нерухомасці".

Але, відаць, гмінныя ўлады не маюць ахвоты нават паінфармаваць аб гэтым зацікаўленых вяртаннем роднай зямлі, а нават не дазваляюць захаваць слядоў былой вёскі на сухім беразе вадасховішча, такім як крыжы на канцы вёскі, якімі апякуюцца былыя жыхары. І крыжы тыя прападаюць, перастаўленыя чужымі, новымі ўласнікамі зямлі, або зваленыя на гмінныя сметніцы.

*(працяг будзе)*

**Міра ЛУКША**

*Інфармацыі пра магчымасці вяртання роднай зямлі і дапамога ў гэтым — у рэдакцыі „Нівы"*

## Тадэвуш Канвіцкі, «Ніва» і Беларусь

У кніжцы «Kalendarz i klepsydra» на 19 старонцы аўтар, Тадэвуш Канвіцкі (1926-2015), успамінае як у 1976 годзе штотыднёвік «Ніва» звярнуўся да яго з пытаннем, які ўплыў на яго творчасць мела Беларусь. Аўтар не адказаў «Ніве» на пытанне, але зрабіў гэта ў сваёй кнізе «Kalendarz i klepsydra», выдадзенай у 1976 годзе. Менавіта Беларусь мела такі ўплыў, што Канвіцкі да гэтай пары не ўмее добра пісаць па-польску, «że na zawsze zbakierowała mi ucho, że swoją melodyką zagłuszyła tę piastowską, sandomierską czy kielecką intonację, której uczę się, uczę i nigdy nie nauczę». Так піша аўтар на 20 старонцы згаданай кнігі. Польскі пісьменнік піша, што Беларусь асацыюецца з рыжай пожняй восені ці шэрым палатном, якое сохне на сонцы. Аўтар кажа, што Беларусь — гэта зямля добрых людзей і таму не павінна называцца Беларуссю, але Дабрарусcю. Таму Дабрарусь, бо яна не нападала на іншыя народы, не рабавала чужога багацця, не забівала суседніх народаў, а сама цярпела ў час войнаў. Мела пашану для другіх народаў — апошнюю карову ці апошнюю лусту хлеба. Мела для нешчаслівых народаў крывавае сэрца і беднае не распешчанае жыццё. Пісьменнік мае пашану да простых беларусаў, неадукаваных, якія яго маладога выратавалі. Беларусь асацыюецца пісьменніку з палатнянай кашуляй з вышытым на ёй беларускім арнаментам. Беларусь для Канвіцкага асацыюецца з вострым пахам конскага поту ці снегу па самыя вокны, адзінага багацця гэтай зямлі. Беларусь, паводле Канвіцкага, надта шчырая, надта добрая, надта лагодная на гэты час. Такі вось вобраз Беларусі ў польскага пісьменніка, які нарадзіўся на польска-беларускім памежжы.

**Юрка БУЙНЮК**

## Векавыя дубы

У Белавежскай пушчы растуць прыгожыя дубы. Ёсць сярод іх волаты ў некалькі тон вагі. Дубы-каралі цешаць нас сваёй спакойнай прысутнасцю, прыгажосцю і магутнасцю.

Асабліва прыгожыя дубы, у тым ліку і помнікі прыроды, знаходзяцца на тэрыторыі, між іншым, Нараўчанскай гміны. Дубовыя гайкі варожаць вока ля вёскі Свінарої, каля Крыніцы, Капітаншчыны, Пераходаў і Альхоўкі ды ў Гнільцы.

Стройныя векавыя дубы можна сустрэць ва ўрочышчы Вілы, там дзе прытокі Гвозьна і Брашча ўліваюцца ў раку Нараўку.

Прыгожыя дрэвы з гэтага шляхетнага віду ліставых можна ўбачыць каля царквы ў Нараўцы ды пры павятовай асфальтавай дарозе, якая паралельна бяжыць побач чыгункі ў Плянце.

Шматвяковыя волаты знаходзяцца на тэрыторыі Гайнаўскай гміны, між іншым каля вёсак Лазіцы, Ліпіны і Пасталова ды ў Нарваўскай гміне — каля Падбаравіска і Падваськоў. Многа іх на тэрыторыі Белавежскай гміны ды ў самой Белавежы і ў г. зв. Старой Белавежы (там пралягае гістарычна-прыродазнаўчая сцяжына «Шлях каралеўскіх дубоў», заснаваная лесніком Яцкам Высмулкам).

Дзе як дзе, але векавыя дубы растуць, між іншым, у Гайнаўцы пры вуліцах Белавежскай, Паркавай, Пілсудскага (тут на дубах начэпленыя спецыяльныя зялёныя значкі, прызначаныя для помнікаў прыроды), Арміі Краёвай, 3 Мая, Ракавецкага і а. Дзевятоўскага.

**(яц)**

Малявалі, бо не ўмелі без гэтага жыць. Былі самавукамі. Абыходзіліся без ведання канонаў і мастацкай адукацыі. Аднак менавіта іх працы займалі асаблівае месца ў вясковых беларускіх хатах. Іх працам поўнасцю прысвечаная выстаўка „Беларуская народная ікона” у Музеі сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы, якая адкрылася 14 чэрвеня. Народныя майстры і іхнія іконы, магчыма далёкія ад высокага акадэмічнага мастацтва, сталі асаблівай інтэрпрэтацыяй канону і адначасова аўтэнтычнай спадчынай Беларусі.

# Багацце беларускай культуры запісанае ў іконах

### Супрацоўніцтва Цеханоўца з Мінскам

Паміж Музеем сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы і Беларускім дзяржаўным музеем народнай архітэктуры і побыту ў Мінску завязалася блізкае супрацоўніцтва па ўсіх напрамках музейнай дзейнасці. Гэта сумесная культурна-асветніцкая праца, навукова-даследчая і экспазіцыйна-музейныя праекты. Абодва музеі ладзяць таксама сумесныя мерапрыемствы, напрыклад, «Свята хлеба».

— Мы ўзаемна ўзбагачаемся. У нас многа сумеснага, — адзначыў дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ў Мінску Эдуард Багдановіч. — Мы таксама праводзім сумесныя пасяджэнні, у час якіх кранаем вельмі важныя тэмы.

Выстаўка «Беларуская народная ікона», адкрытая 14 чэрвеня ў Цеханоўцы, гэта таксама заслуга Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства.

— Гэта вельмі важна, каб музеі працавалі разам, ладзілі супольныя выстаўкі штогод, — адзначыў дырэктар Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Анатоль Вап. — Абмен выстаўкамі, сваім вопытам, сваёй працай. Гэта супрацоўніцтва не толькі ўстаноў, але перш за ўсё людзей — працаўнікоў абодвух музеяў.

Кантакты з музеем у Мінску наладзіла і з году ў год умацоўвае дырэктар Музея сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы Дарота Лапяк.

— Дзякуючы супрацоўніцтву ў нас большыя магчымасці. Гэта іконы, якіх ніхто ў Польшчы яшчэ не бачыў. Вядома, маем Музей ікон у Супраслі, аднак тут маем зусім іншыя працы. Мы хацелі наведвальнікам наблізіць культуру нашых суседзяў. Сёлета яшчэ раз сустрэнемся ў час «Свята хлеба», дзе будзем мець магчымасць прыглядзецца жніўным традыцыям беларусаў. Ведаем таксама, што ў наступным годзе паедзем з выстаўкай у Мінск. Хочам паказаць беларусам працы нашых падляшскіх ткачых — двухасноўныя дываны.

### Народны экуменізм

Выстаўку складаюць амаль сорак ікон з XIX — пачатку XX стагоддзя, якія паходзяць з гісторыка-культурных этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі — з заходняга і ўсходняга Палесся, Прыдняпроўя і рэгіёнаў па рацэ Нёман. Усе яны намаляваныя народнымі майстрамі на аснове хрысціянскіх канонаў. У гэтых іконах адбыўся сінтэз візантыйскага мастацтва, заходняга і народнага дэкаратыўнага мастацтва. Гэта яркія колеры і раслінныя матывы.

— У Беларусі захавалася вялікая колькасць ікон. Да нядаўняга часу на іх не вельмі звярталі ўвагу. Іх лічылі такім наіўным, інсітным мастацтвам, але ад нейкага часу да іх звяртаюцца ўсё больш і больш, — сказала загадчыца навукова-экспазіцыйнага аддзела Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры ў Мінску Наталя Гермацкая. — Яны захоўваюцца ў зборах шматлікіх музеяў Беларусі і таксама ў прыватных калекцыянераў і штораз часцей іх выстаўляецца. Мы ганарымся тым, што прывезлі вялікую колькасць ікон, якія захоўваюцца ў нашых зборах, каб паказаць іх польскім наведвальнікам.

### Вясковыя самародкі — людзі, якіх пацалаваў Бог

Іконы збіраліся з 1997 па 2017 год. Яны захоўваліся ў покуцях, у чырвоных кутах хат і перадаваліся супрацоўнікам музея ў час шматлікіх экспедыцый. На выстаўцы толькі адна ікона з Прыдняпроўя — з Магілёўшчыны і адна ікона з-над Нёмана — гэта Гродзеншчына. Усе апошнія былі знойдзеныя на ўсходнім Палессі. Сярод іх — вялікая колькасць чарнобыльскіх ікон, з чарнобыльскай зоны. Ёсць нават іконы з тых вёсак, якія зараз не існуюць. Яны характэрныя для Палесся не толькі беларускага, але ўкраінскага таксама. — Яны цікавыя тым, што людзі, якія іх пісалі, уклалі ў гэта ўсё, што ў іх было ўнутры: сваё сэрца, свае думкі, свае эмоцыі, тое, што яны бачылі, як яны адчувалі асяроддзе... Яны яшчэ адметныя тым, што для гэтых ікон характэрная фальклорнасць, — адзначыў дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ў Мінску Эдуард Багдановіч. — Тут выкарыстоўвалі мноства разнастайных фарб. Ад усеагульных канонаў ікон яны моцна не адыходзяць, але кожная асаблівая. Гэта працы вясковых самародкаў, якіх пацалаваў Бог. Ну, вядома, яны добра не ведалі канонаў, але яны пісалі так, што ім пакланяліся, пакланяемся і будзем пакланяцца! Самі ведаеце, як у беларускай, так і ў польскай хаце ікона гэта была традыцыя, гэта жыццё, гэта сям'я. Без іконы немагчыма функцыянаванне вясковай сям'і. І мы павінны тое перадаваць падрастаючаму пакаленню. Не забывацца пра гэта.





### Божая Маці пад сялянскай страхой

Багародзіца адыгрывае і адыгрывала важную ролю ў народнай рэлігіі. Гэта самы надзейны абаронца людзей на зямлі і заступніца ў малітвах, кіраваных да Бога. Яна блізкая людзям таму, што ведае, што гэта боль і цярпенне — пачуцці, якія часта суправаджаюць жыццё чалавека. Менавіта ў Музеі сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы можна ўбачыць перш за ўсё выявы Божай Маці, святога Мікалая Цудатворца і пакутніцы Варвары. Што цікавае, працаўнікам музея ўдалося таксама знайсці ікону паважанага на Палессі святога Устыляна, які, паводле веравання, спрыяў дзецям. Менавіта перад іконай св. Устыляна маліліся за здароўе наймалодшых сямейнікаў. Большасць з усіх паказаных на выстаўцы ікон напісана ананімнымі аўтарамі.

— Мы не ведаем практычна нічога пра ідэнтычнасць майстроў народных абразоў. У большасці выпадкаў, у апісаннях ікон, якія паказаны на выстаўцы, знойдзем інфармацыю пра першапачатковае месца знаходжання іконы, без згадкі пра аўтара. Толькі ў некалькіх выпадках былі вызначаны імёны майстроў.

Прэзентаваныя ў Цеханоўцы іконы пратрымалі стагоддзі, а таксама наступствы рэвалюцыйных падзей 1917 года і катастрофу ў Чарнобылі. Гэта таксама доказ іхняй незвычайнасці і магутнасці!

Выстаўка будзе працаваць да 10 жніўня.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Баба-Яга з Арэшкава

http://chatkababyjagi.pl



Недзе ў Белавежскай пушчы, па другім баку мяжы жыве Дзед Мароз. Асабіста я ніколі з ім не сустракалася. Хацелася б туды дачку завезці, каб паглядзела. Але, вядома, паехаць у Беларусь, хаця б на некалькі гадзін, справа надта складаная. Папала я затое ў бязвізавым рэжыме ў пушчанскую хатку Бабы-Ягі разам з настаўнікамі Сакольскай аграрнай школы і іх дзяцьмі. Стаіць яна на самым канцы падгайнаўскага Арэшкава. Не ведаю дэталяў наконт суседа — Дзеда Мароза, але магу сказаць, што арэшкаўская Баба-Яга надта багатая, жыве не ў адной, а ў дзвюх хатах.

Пасля двухгадзіннага падарожжа наш аўтобус запыняецца на невялікай, пясчанай стаянцы. Маім вачам паказваецца архітэктурнае цуда-цудовішча родам з казкі пра «Залатую рыбку». Велізарная, шматпавярховая хата, з фіялетавымі, дзе-ндзе аблупленымі з фарбы сценамі і белымі, гіпсавымі арнаментамі, стылізаванымі на вясковыя ўзоры. Калоць у вочы таксама крышку абдзертыя з фарбы чырвоныя дзверы. Януш Корбель, вечная яму памяць, напэўна плача, гледзячы згары на такое знявечанне пушчанскага краявіду. Побач з «палацам» на тым жа пяску стаіць хатка велічынёй традыцыйнай, драўлянай. На жаль, дрэва на ёй не відаць. Дах і вонкавыя сцены абклеены нечым, што па форме напамінае кандытарскія прадукты, памаляваныя яркімі прымітыўнымі колерамі. Усярэдзіне ўсё, што хочаш — і дрэва, і гліна, і тэракота. Дзверы туалета так перакрываліся, што каб адчыніць іх, трэба абавязкова моцна пхнуць, выключаючы пры тым шмат надта непрыемных гукаў. Звяртае ўвагу таксама адарванае ад кантэксту асвятленне гэтага быццам з вокнамі, але без акон будынка. Такія ланцужкі невялікіх, белых лямпачак бачыла я ўжо ў адной з навапабудаваных, суперсучасных хат у Крынках.

http://chatkababyjagi.pl



Таямніц хаткі выдаваць не буду, скажу толькі, што прыстасаваная яна для людзей з моцнымі нервамі. Мае аказаліся надта слабымі. Праўду кажучы, экскурсія па доміку — званая тут анімацыяй, якую вяла сама Баба-Яга, вельмі напамінала вясельныя «очэпіны». Такія, з якіх смяяўся ў сваім культавым фільме «Вэсэле» рэжысёр Войцех Смажоўскі. У ачэпінах Бабы-Ягі трэба было ўдзельнічаць цэлымі сямействамі. Ім больш сямейнікаў, тым лепшая забава. Баба-Яга, трэба прызнаць, пераканае ўсіх, нават маю родную дачку. Тая, як ніколі раней, не змагла цешыцца прысутнасцю сяброў і сяброўак таму, што Баба-Яга пхала ў гаршкі і клеткі дзяцей выключна з бацькамі. Ну і абавязкова здымак у запыленай «печы» са шклянымі дзверцамі ад сучаснага камінка на фоне намаляваных фарбкай жоўта-чырвоных полымяў. На вагу хлусні таксама пускала дзетак толькі з поўных сем'яў. Сям'я — будучыня народа. Альбо ты жывеш па прынцыпах «большасці», альбо не жывеш увогуле. Іншых варыянтаў тут няма.

«Здымаемся, здымаемся», — кожныя пяць мінут угаворвала Баба-Яга. Сама вырывала з рук няпэўных сябе асоб фотаапараты і шчоўкала. І як не дзіўна, усе яе слухалі быццам зачараваныя, зусім не думаючы, ці ім гэтыя здымкі да нечага ўвогуле патрэбныя, ці калі-небудзь на іх глянуць. Але, праўду сказаўшы, што можна вынесці з такой экспедыцыі? Толькі здымкі, якія напэўна пойдуць на фейсбук, а заадно прыцягнуць чарговых клієнтаў.

«І які дурань сюды прыедзе?» — думаю сабе. Аказваецца, на кліентаў хатка не наракае. Наведвальнікі пад'язджаюць кожныя некалькі мінут. Рэгістрацыі варшаўскія, познаньскія, а нават замежныя (з-за заходняй мяжы). Здаецца, неўзабаве гаспадарам мяшкоў на грошы забракуе. Яны іх там проста напіхваюць купюрамі. Уваход у славутую хатку — 15 злотых ад асобы. Можна сабе хутка палічыць, колькі заплаціць стандартнае сямейства — два плюс два. А яшчэ трэба заплаціць па 12 злотых ад асобы за «пячэнне» пернікаў. Плацяць дзеці і бацькі, якія іх пільнуюць. Гледзячы на стан гігіены хаткі, я пачала на запас клапоціцца пра якасць прадуктаў і ўмовы пячэння. Запрапанавала я Бабе-Язе, каб дзеці хаця б рукі памылі. Але такой патрэбы не было, таму што гліняныя пернікі ўжо даўно спякліся і дастаткова было іх пэндзлікам сям-там падмаляваць, каб смачней выглядалі. Адразу прызнаюся, што я абавязковай прысягі на захаванне таямніцы пячэння згаданых ласункаў, у адрозненні ад большасці прысутных, не давала. Але гэта далёка не ўсе магчымасці запіхвання мяшкоў Бабы-Ягі грашыма. За пяць злотых можна было набыць дыплом удзелу ў спаборніцтве накшталт колішняй гульні «ў падходы». Я спярша думала, што гэта нейкі здзек. Дыпломы за пяць злотых? Публічна адмовілася ад выкупу дыпломаў, але каб зрабіць дзіцяці прыемнасць, вырашыла прыняць удзел у забаве. Першае заданне: «Drzewo liśćmi swymi zagląda na taras», другое: «Zazdrosna choinka chciałaby również na taras», дзявятае: «Przy ognisku na drzewie wisi czajnik», і так далей. Мушу сказаць, што ні я, ні дачка не былі ў змозе знайсці рашэнні згаданых задачак, а значыць і шанцаў на дыплом у нас не было.

Дзякуй Богу, пасля паразы дачка адчапілася ад атракцыёнаў хаткі. Мы проста ўзялі прывезены з сабой мяч і зайгралі ў «ногу». Гэта аказаўся самы цікавы і прыемны пункт нашай праграмы. Была яшчэ запыленая, цёмная клетка, званая крамай, у якой нейкая дзяўчынка прадавала па слушных цэнах смецце родам з Кітая. Цяжка паверыць, але людзі гэта купілі, а на мяне глядзелі як на кепскую маці, якая шкадуе свайму дзіцяці. Варта ўспомніць і вогнішча на пясчанай пляцоўцы перад хаткай. Сакольскія кілбаскі, смажаныя ў жары агню пад спякотным сонцам. Значыць, і мы, і кілбаскі адчувалі сябе быццам на патэльні. Большага кашмару не прыдумаеш. А шакаладкі, уфундаваныя дзеткам аграрнай школай, проста паплылі. Да шчасця не хапала толькі зялёных вачэй Зэнка Мартынюка. «Дзеткі помняць Бабу-Ягу даўжэй, чым зубра», — чытаю на рэкламе, змешчанай на адвароце «тэста-забавы». Маёй дачцэ асабліва запамятаўся ружовы, пластмасавы дыяменцік — бясплатны падарунак ад Бабы-Ягі, які мае цудоўную моц. Дастаткова толькі нешта сабе замарыць і весці сябе акуратна, а ўсё збудзецца.

Іаанна ЧАБАН

# Такое багацце

**Размова з прафесар Лэсяй ДЫЧКО, членам журы XXXVI Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі, сакратаром Саюза кампазітараў Украіны.**

**— Спытаю Вас: колькі гадоў Вы прымаеце ўдзел у працах Фестывалю?**

— Многа; дакладна не буду гаварыць. Хачу падкрэсліць, што гэты Фестываль з'яўляецца адзіным у Еўропе конкурсам праваслаўнай музыкі. Паколькі я з'яўляюся сакратаром Саюза кампазітараў Украіны і займаюся харавой музыкай — а ў нас два аграмадныя фестывалі: Kyiv Music Fest і Прэм'еры. І там уся сучасная музыка ідзе а капэла. Я вельмі многа езджу па Украіне, я хачу знаць, мне цікава наша музыка. Украіна стармошаная вайною, у нас вельмі складаныя эканамічныя абставіны — і тым болей мы змаглі сем хароў рэкамендаваць на гэты фестываль. Што я заўважаю? Што на гэтым конкурсе выдатна прэзентуецца Беларусь. Прыпомню — летась не было столькі ўкраінскіх хароў, а вось з Беларусі быў хор Беларускага радыё; ён гучаў чароўна. Беларусы гэта славянская нацыя, са здзіўляючай чыстатою інтанацыі. Я была знаёма з Роўдам; я вельмі шаную беларускую музыку — беларусы спяваюць вельмі прыгожа. Цягам некалькіх гадоў прадстаўнікі Беларусі бралі многа першых прызоў, справядліва заслужаных. А сёлета атрымалася так, што сем украінскіх хароў прыехала на гэты конкурс; такога яшчэ не бывала — а з гэтых сямі чатыры ўзялі першыя месцы. Вельмі добра выступалі беларускія хары — там былі другія месцы. І дзіцячыя выдатна сябе праявілі, і камерныя праявілі сябе вытанчана, прыгожа, паэтычна. На наступны год, мяркую, Беларусь дасць больш хароў.

**— Вы прысутны на Фестывалі ўжо шмат гадоў. Што можаце сказаць пра мастацкі яго ўзровень: расце ён ці можа падае?**

— Дакладна немагчыма гэта ацаніць. Узровень лёгка калышацца, але ён заўсёды вельмі высокі. Не забудзьце, што ў Еўропе больш няма такога праваслаўнага харавога конкурсу.

**— А як выглядае наш фестываль на фоне ўсёй царкоўнай музыкі?**

— У мяне свой пункт гледжання. Я лічу царкоўную музыку незастылым жывым целам. Яна развівалася тысячагоддзямі. І тое, што тут спалучаюцца і візантыйскія распевы, і грэчаскія, і дзмественныя, і знаменныя, і кіеўскія, і балгарскія — такое багацце — мы з гэтым знаёмімся. Я слухала „Драмы" Дзмітрыя Растоўскага — гэта ж бліскучасць. А з другога боку — усё сучаснае, якое толькі ёсць. Я лічу, што тут вельмі высокі ўзровень, ён не апускаецца, ён увесь час высока. Хачу яшчэ дадаць, што беларусы — народ брацкі, палякі родныя, ды і руская таксама. І вось брацкі беларускі народ такі пявучы, такія цікавыя хары ёсць — няхай як найчасцей прымаюць у Фестывалі ўдзел.

**— Вялікае Вам дзякую і ўсяго Вам добрага ў будучыні.**

Размаўляў Аляксандр ВЯРБІЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Астаткі ў Нарве



Фота Ганны Кандрацюк



Здаецца, што кожны вучань асабліва любіць чэрвень. Вядома, набліжаецца завяршэнне навучальнага года. Менавіта тая другая палова месяца, калі ўжо ўсе ацэнкі папраўлены на магчыма лепшыя, усім найбольш даспадобы. Вядомыя і такія выпадкі, што нават найбольшая школьная лянота даходзіць да высновы, што шкада будзе пакідаць школу на два месяцы і з настальгіяй глядзіць на мінулыя дзесяць! Больш таго, менавіта апошнія два тыдні школы насычаны мерапрыемствамі, сустрэчамі і экскурсіямі. У такім рэжыме навукі сапраўды школа здаецца быць самым лепшым месцам на развіццё перш за ўсё сяброўскіх сувязей. І з настаўнікаў сыходзіць стрэс — яны становяцца больш прыемнымі, вясёлымі, не такімі страшнымі. Менавіта адна з вечарынак, прымеркаваных да развітання з навучальным годам, прайшла ў школе ў Нарве. «Захаваць у памяці» — пад такім лозунгам адбылося мерапрыемства, у ходзе якога вучні мясцовай школы паказалі беларускамоўныя сцэнкі. Школьнае мерапрыемства мае ўжо амаль 20-гадовую традыцыю, а яго ініцыяткай і арганізатаркай з'яўляецца настаўніца Ніна Абрамюк. Героямі мерапрыемства, вядома, былі вучні. Каб паглядзець падрыхтаваныя імі сцэнкі, госці прыехалі не толькі з Нарвы і блізкіх мясцовасцей, але і з Беластока. Гледзячы на рэакцыю публічнасці, няма сумнення, што хто-небудзь сумняваўся ў правільнасці рашэння аб прысутнасці на мерапрыемстве. Сцэнкі былі і смешныя, і павучальныя.

На мастацкім мерапрыемстве ў Нарве не магло не хапаць Крыстыяна Паскробкі, які ўсім чытачам «Зоркі» вядомы сваім акцёрскім талентам. Са школьным годам канчаецца і ягоная адукацыя ў нарваўскай школе.

— Мне ўдалося заваяваць добрыя месцы ў шматлікіх конкурсах, дзякуючы супрацоўніцтву з настаўніцай Нінай Абрамюк, — прызнаўся пасля мерапрыемства Крыстыян. — Далей буду вучыцца ў Гайнаўцы і думаю, што не пакіну гульні ў акцёрства.

Мы верым, што будзем сустракаць Крыстыяна на розных конкурсах. У самой Нарве ён пакінуў не горшых за сябе малодшых сяброў, якія таксама пры супрацоўніцтве з настаўніцай маюць шанц паўтарыць поспех Крыстыяна.

## УВАГА КОНКУРС! № 26-17

Ён у самы санцапёк
Падстаўляе сонцу бок.
Колерам зеленаваты,
У кашульцы паласатай.
К....

(У. Мацвеенка)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 9 ліпеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 22-17: ровар. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Ігнацы Раманюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Данута Бічэль

## Чарніцы

Абвяшчае бор, бор
На паляне збор, збор:
Чорныя чарніцы,
Нібы чараўніцы,
Сыплюцца ў кубкі
Ды малююць губкі.

Расквецім гісторыю Беларусі

# Першая беларуская друкаваная кніга — 1517

Беларусы — народ, які любіць кніжкі. Пра важнасць кніг напаміналі нам беларускія святыя: Еўфрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі.

У эпоху гуманізму шмат моладзі ехала вучыцца ў Італію ды вярталася з новымі ідэямі. Такім быў Францішак Скарына з Полацка. Ён выдаў першую друкаваную кнігу на славянскіх мовах. Гэта адбылося 6 жніўня 1517 года ў Празе. Тады менавіта выйшла ў свет першая беларуская кніга — Біблія.

Скарына быў на той час глабальным інтэлектуалам. Як першадрукар сабраў у адно высокатэхналагічнае рашэнне цэлы шэраг інавацый: еўрапейскія і кітайскія вынаходствы, працу з фундатарамі і інвестарамі, культурніцкі менеджмент і сувязі з грамадскасцю.

Францішак Скарына для беларусаў — як Гутэнберг для немцаў. Яго ўшаноўваюць у іншых краінах. У чэшскай Празе яму паставілі прыгожы помнік.

**(гак)**

# Віні-Пух на сцэне — выклік для акцёраў!

«Для мяне гумар, гэта калі іншыя добра сябе адчуваюць, цешацца, смяюцца», — раздумвае ўголас Мікола Здрайкоўскі з беластоцкай „чацвёркі. Якраз у спектаклі пра „Прыгоды Віні-Пуха" іграў ролю не надта кемлівага мядзведзіка, які сваім коштам развесяляў і падбадзёрваў сяброў. Міколка справіўся ў сваёй ролі на шасцёрку, прытым вывучыў такую складаную і доўгую ролю, з якой меў бы клопат не адзін наш ліцэіст. Міколка любіць такія выклікі!

Спектакль быў паказаны ў час падвядзення беларускіх мастацкіх праектаў, якія вядуцца ў беластоцкай „чацвёрцы". А на публіцы былі ўсе: бацькі, сябры, знаёмыя.

— Я вельмі перажываў, каб усё добра атрымалася, — прызнаецца Мікола.

Сваю ролю пад кірункам настаўніцы Аліны Ваўранюк і акцёра Бернарда Бані вывучаў ён цэлы год. Першыя шэсць месяцаў заняло вывучэнне тэксту, далей трэба было вывучыць тэатральную ролю.

Падобны выклік чакаў Касю Іванюк, якая выступіла ў ролі вядучай. Яе прэзентацыя і прыгожае вымаўленне проста захаплялі. Ды дзеці ўзялі да сэрца свае ролі і сыгралі іх найлепш як патрапілі. Для Міколкі самым важным партнёрам быў Кшысь, якога сыграў Давід Алексяюк. Мікола запамятаў аднак ролі ўсіх герояў п'есы, каб мець пад рукой, калі хто зб'ецца са слова, гатовую падказку. Назавем тады ролі іншых акцёраў, якія, падобна як Мікола, граматна і са сцэнічным адчуваннем сыгралі прыгоды не надта кемлівага мядзведзіка. На сцэне ў ролі Кроліка выступіў Аляксандр Вайцюк, Марлена Чурак сыграла Парсючка, Агата Лукашэвіч — Асла, Сара Скаўронская — Саву, Каліса Пятроўская — Малечу, Дар'я Врублеўская — Маму Кенгуру, а Юля Савіцкая — Тыгра.

Вядома, Міколка Здрайкоўскі раней прачытаў па-польску прыгоды Віні-Пуха, аднак сыграць яго ролю па-беларуску гэта было нешта іншае, новае, крэатыўнае.

— Мы многа напрацаваліся, але адчулі, якая прыгожая беларуская літаратурная мова, — дадае.

Тут трэба адзначыць, што пераклад і беларускія дыялогі напісала настаўніца Аліна Ваўранюк.,

— А каб было смяшней, — прызнаецца галоўны акцёр, — мы дадалі яшчэ нешта ад сябе.

**Зорка, фота Ганны Кандрацюк**

# Найлепшы дуэт

— Усе вельмі чакалі гэтай бяседы, — кажа настаўніца Альжбета Рудкоўская, — і гэта мяне цешыла, бо гэта значыць, што ідэя прынялася.

Мова пра беларускі пікнік, які ад гадоў ладзяць пры Гімназіі № 7 у Беластоку. На пікніку сустракаюцца вучні і бацькі, каб у нязмушанай, спантаннай атмасферы пагаварыць пра мінулы школьны год, падумаць пра будучыню. Разам адбываюцца конкурсы і спартовыя спаборніцтвы. У гэты раз пікнік праходзіў пад лозунгам «Найлепшы дуэт». Вучні дабіраліся ў пары паміж сабой, але і з бацькамі. Хто перамог? Вось, найлепшым дуэтам сталі Вікторыя і яе тата Юры Пякарскія. **(Зорка)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 26-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 22-17:**

Знак, старт, ах, хмарка, хлеб, ар, рух, адкос, ні, на, кулак. Пан, нагода, дах, хром, хлус, смех, штаб, ну, ар, Ніл, Юрка, тартак.

Узнагароды, кніжкі Вольгі Гапеевай «Сумны суп», выйгралі **Алеся Буткевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку і **Мацей Кендысь** з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

Hit, Mit, Bażant, Ara, Mak, Wiwat, Umywalka, Obiad, Wiara, Tata, Iran, Atom, Zabawa, Hymn, Kanadyjczyk, Gazeta, Miara, Akr, Data, Jad, Fin, Książka, Kapłan

Родам з Беласточчыны

# Лёс Ганны Валасовіч з Арэхавічаў і яе сям'і

У беларускага паэта, перакладчыка, публіцыста Віктара Шымука (1933-1998) ёсць шмат шчырых паэтычных радкоў, прысвечаных маці:

Мама... Якое слова
Можа з гэтым зраўняцца?
Мама... У гэтым слове
Ласка і пачуццё.
Бачыш, сынок маленькі
Сонейку усміхаецца.
Ты яму, любая маці,
Сонца дала і жыццё...

Маці Віктара Шымука, Ганна Валасовіч, была родам з Беласточчыны. Яна нарадзілася ў 1896 годзе ў вёсцы Арэхавічы на Бельшчыне. Маці Ганны вельмі рана памерла, калі дзяўчыны было 7 гадкоў. Сіротамі таксама засталіся брат Зміцер і сястра Жэня. Дзяцей разабралі сваякі. Ганну выхоўвала цётка, якую заўсёды добрым словам прыгадвала Ганна Валасовіч.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны сям'я, дзе выхоўвалася Ганна, эвакуіравалася ў горад Казлоў (Мічурынск) за Масквой. У гэтым горадзе ў царскай арміі служыў беларус з Дзятлаўшчыны Мікалай Шымук. Там маладыя і пазнаёміліся, пакахалі адзін аднаго, а потым пажаніліся.

У 1922 годзе Мікалай Шымук вырашыў вярнуцца з прыгажуняй жонкай на Бацькаўшчыну — у родную вёску Змяёўцы Дзятлаўскай воласці Слонімскага павета, якія ўжо знаходзіліся пад Польшчай.

Па дарозе дамоў Ганна захварэла на тыф. Муж Мікалай пакінуў яе ў Мінску ў шпіталі, а сам з рэчамі сеў на цягнік і паехаў у Стоўбцы. Але дамоў на Дзятлаўшчыну дабрацца не змог, бо ў Стоўбцах яго арыштавалі польскія ўлады і завезлі ў Познаньскую турму.

Праз некалькі месяцаў Ганна Валасовіч (Шымук) ачуняла і прыехала ў вёску да мужа. Каханага чалавека там не аказалася, а толькі яго бацькі. Але і яны не ведалі, дзе сын Мікалай і што з ім здарылася. Тады Ганна Валасовіч праз сваіх сваякоў з Бельска даведалася, што яе муж Мікалай сядзіць у адной турме з яе родным братам Зміцерам Валасовічам. Ганна хутка збіраецца ў дарогу і едзе ў Познань да мужа і брата ў турму. Прыехаўшы ў Познань, жанчына дабіваецца сустрэчы з начальнікам турмы і вызвалення з няволі яе мужа Мікалая. Сустрэцца з родным братам ёй не ўдалося.

Мікалай Шымук быў здзіўлены подзвігам каханай жанчыны, якая знайшла яго ў Познані і выратавала з няволі. Яны былі шчаслівыя такой сустрэчай і разам пачалі дабірацца да Дзятлаўшчыны. Грошай на дарогу ў іх не было, таму пешшу Ганна і Мікалай пайшлі на бацькаўшчыну мужа. Ішлі праз лясы, палі, рэчкі і позняй восенню яны ўжо былі ў вёсцы Змяёўка.

Жылі Ганна і Мікалай Шымукі па тым часе беднавата. Яны мелі толькі тры гектары зямлі. Мікалай зарабляў грошы на лесапільцы ў яўрэя Каплінскага, якая знаходзілася за некалькі кіламетраў ад вёскі. За ўдзел у падпольнай рабоце супраць польскай улады не адзін раз нават сядзеў у турме. А яшчэ Мікалай Шымук быў добрым гарманістам. Уся акруга пра гэта ведала і ні адно вяселле не абыходзілася без яго ўдзелу. А Ганна любіла шыць і глядзела дзяцей. Часта летнімі і асеннімі вечарамі Мікалай і Ганна Шымукі, а таксама іх дзеці, садзіліся пад бярозай на лаўцы і пад гармонік разам спявалі беларускія народныя песні.



■ Ганна Валасовіч і Мікалай Шымук



■ Ганна Валасовіч з мужам і дзецьмі, 1930-я гады

У верасні 1939 года ў Заходнюю Беларусь прыйшла савецкая ўлада. І Мікалая Шымука прызначылі першым старшынёй толькі што створанага калгаса імя Молатава. На гэтай пасадзе ён адпрацаваў да пачатку Другой сусветнай вайны. А калі пачалася вайна Мікалая прызвалі ў Савецкую Армію, але трапіць на фронт ён не паспеў. Немцы хутка занялі Дзятлаўшчыну і арыштавалі ўсіх прызыўнікоў, якія сабраліся каля пакінутага ваенкамата. Тады Мікалаю Шымуку цудам удалося выратавацца. А дапамог у гэтым адзін перакладчык, які ведаў некаторых мужчын і пераканаў немцаў, што яны не бальшавікі, а простыя вяскоўцы-працаўнікі. Немцы паверылі і хутка Мікалая і іншых мужчын яны адпусцілі дамоў...

У вёсцы Змяёўцы на Дзятлаўшчыне беларусы Ганна Валасовіч з Бельшчыны і Мікалай Шымук пражылі ў дружбе і згодзе шмат гадоў. Але Мікалай памёр рана, калі яму было ўсяго 63 гады, а Ганна пражыла 80 гадоў. Дарэчы, савецкая дзяржава не дала ёй ні капейкі пенсіі: у калгасе, маўляў, стажу працоўнага не хапіла. Як успамінае ўнучка яе Тацццяна, Ганна шмат чытала і была сапраўдным эрудытам, была заўсёды эмацыянальнай, вясёлай жанчынай, нягледзячы на пражытыя нялёгкі лёс...

У сям'і Шымукоў было пяцёра дзяцей. Дачка Марыя трагічна загінула ў 17 гадоў. Сын Коля таксама трагічна загінуў у 10 гадоў. Аднойчы перавозілі сена, а канструкцыя на возе была недасканалай: „рубель", які з вяроўкай прыціскаў сена, абарваўся і смяртэльна стукнуў хлопчыка.

Сын Паўлік жыў у Баранавічах, там цяпер жывуць яго дзеці і ўнукі. А дачка Вера выехала ў Польшчу, бо муж служыў у Войску Польскім, там і засталася з ім жыць.

Самым меншым, як кажуць, мізінчыкам, быў Віктар. Той самы Віктар, які пазней стане паэтам і публіцыстам. Нядаўна ўнучка Ганны і Мікалая Шымукоў, Тацццяна Шымук, перадала мне адзін невялікі тэкст успамінаў свайго бацькі-пісьменніка Віктара Шымука, які называецца „Вёска мая, Змяёўцы". Ён нідзе яшчэ не друкаваўся. Але ў гэтым тэксце — тужлівы ўспамін пра бацьку Мікалая Шымука: „Ніколі не бачыў, каб плакаў бацька. Ніколі не было на яго вачах слёз. А тут правёў мяне на сцяжынку, што ідзе на гасцінец, расчуліўся. „Ну то, бывай, сынок... Прыязджай на Новы год пагасцяваць са сваёй жонкай. Якая яна там у цябе? Не бачыліся ж яшчэ", — сказаў бацька і заплакаў.

— Тата, не трэба, не хвалюйся. Хутка сустрэнемся...

— Добра, дзеткі, было б яшчэ пабачыцца...

У той кастрычніцкі дзень 1953 года я не ведаў, што бачу свайго бацьку апошні раз. Я нават не падумаў, што ўжо ніколі ён не будзе мяне сустракаць на парозе роднай хаты, што я не адчую яго абдымкаў, поціску яго шурпатых рук. А ён мусібыць, сэрцам сваім адчуваў. Бо чаго так маркотна стаяў і, змахваючы з вачэй слязінкі, глядзеў доўга, доўга мне ўслед, аж пакуль я не знік за Фабіянавай гарой...".

Сын Ганны і Мікалая — Віктар Шымук, пасля заканчэння васьмігодкі, працаваў у дзятлаўскай раённай газеце „За новую вёску", вучыўся ў вячэрняй школе, а потым скончыў аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у газеце „Звязда", „Літаратура і мастацтва", а з 1977 года быў намеснікам галоўнага рэдактара Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання на Беларускім радыё.

Сваю літаратурную дзейнасць Віктар Шымук пачаў дванаццацігадовым хлопчыкам вершам у дзіцячай газеце „Піянер Беларусі". А ў 1960 годзе выйшла з друку яго першая кніга пра піянера-героя Колю Гойшыка. А потым выходзілі новыя кнігі, прысвечаныя і дзецям, і дарослым. Сярод якіх былі зборнікі „Мы вясне дапамагалі", „Дочкі сіняга Нёмана", „Свіцязянскія хвалі", „Святло красавіцкіх бяроз", „Спелы жнівень" і многія іншыя. Усіх было выдадзена 18 кніжак.

Як і бацька, Віктар Шымук меў добры музычны слых, выдатна адчуваў музыку і меў прыгожы моцны голас. Лірызм вершаў паэта прыцягваў увагу беларускіх кампазітараў В. Іванова, І. Кузняцова, М. Пятрэнкі, К. Цесакова, П. Шыдлоўскага, П. Русава, якія на яго вершы напісалі песні. Ды і сам паэт, яшчэ будучы хлапчуком, спяваў у школьным хоры, а ў сталым узросце браў у рукі гармонік і іграў. Іграць навучыў бацька. Нават акампаніраваў на вяселлях, як бацька. Любіў казаць, што на гармоніку ён іграў ажно на 33 вяселлях на Дзятлаўшчыне.

Творам Віктарам Шымука былі ўласцівы тонкі лірызм, шчырасць і дасціпнасць. Ён пісаў пра свой родны край, пра яго людзей, пра іх турботы і перажыванні. Паэт таксама займаўся перакладамі, друкаваў і крытычныя артыкулы пра творчасць беларускіх літаратараў. Шмат увагі пры жыцці аўтар надаваў пытанню адраджэння беларускай нацыянальнай культуры і мовы:

Той-сёй гаворыць: аджывае
Ўжо мова родная мая.
А я скажу: яна жывая,
Пакуль жывеш і ты, і я!
Пакуль цячэ павольна Прыпяць,
І Свіцязь плешча ў берагі,
І васількі цвітуць у жыце,
І пахнуць росныя лугі...

Віктара Шымука не стала 18 жніўня 1998 года. Ён пахаваны на гарадскіх могілках у Дзятлаве.







■ Паэт Віктар Шымук і яго кнігі

Сяргей ЧЫГРЫН








# Хрысціянскай канчыны жыцця нашага...

**16 чэрвеня ў Райску была адзначана 75-я гадавіна пацыфікацыі вёскі. У гэты дзень штогод правіцца ў раенскай царкве ўрачыстае памінальнае набажэнства; сёлета ўзначаліў яго епіскап Супрасльскі Грыгорый. Пасля вернікі падаліся ўрачыстым шэсцем за вёску, на брацкую магілу, дзе пакоіцца амаль паўтары соткі раенскіх мучанікаў.**

Міхал Гнатоўскі ў кнізе „Wieś białostocka oskarża” з 1981 года пісаў, што ў Райску да вайны было 98 гаспадарак. Была там пачатковая школа, млын, вятрак і праваслаўная царква. У вёсцы дзейнічала ячэйка Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Тут неаднаразова адбываліся раённыя канферэнцыі КПЗБ. У 1934 годзе вяскоўцы адмовіліся плаціць падатак і адрабляць шарварак. 14 чэрвеня 1942 года група савецкіх партызан пад камандаваннем „Васіля” абстраляла нямецкі легкавы аўтамабіль каля Райска. У адказ на гэта два дні пазней, 16 чэрвеня, па загадзе каменданта СД Беластоцкай акругі Вернера Фрома з раніцы вёску Райск ачапілі атрады СС, гестапа, Вермахта і жандармерыі. Жыхароў вёскі сагналі на прыцаркоўны пляц. Дарослых мужчын, якім было за 16 гадоў, і тых жанчын, чыіх мужоў і дарослых сыноў не было, фашысты расстралялі — усіх 149 чалавек. Закапалі іх у пашыраных ямах для зімавання бульбы, што былі за вёскай. Моладзь ад 14 да 16 гадоў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, а апошніх жанчын і дзяцей адправілі ў наваколле Браньска і Боцькаў. Усе будынкі ў вёсцы былі спалены, царква святой Параскевы ў вёсцы раскідана, Пакроўская царква на могілках спалена, вырваны вясковы брук і зліквідавана вуліца. Вёска Райск мела назаўсёды знікнуць.

Яшчэ ў гады гітлераўскай акупацыі ўцалелыя жыхары Райска сталі перасяляцца да сваякоў бліжэй сваёй роднай вёскі, а пасля вызвалення ад фашыстаў вёску адбудавалі. Прывезлі таксама Петрапаўлаўскую царкву з апусцелай з вернікаў вёскі Патурын, што каля Тамашова-Люблінскага.

На брацкай магіле ў гадавіну трагедыі была адслужана паніхіда. Ва ўрачыстасці прысутнічалі сямейнікі памардаваных, прадстаўнікі мясцовых улад, грамадскіх арганізацый. Была таксама пастар Евангеліцкага касцёла з Германіі Барбара Філер, якая стараецца штогод прысутнічаць ва ўшанаванні ахвяр гітлераўскага злачынства. Былі кароткія прамовы.

Войт Бельскай гміны Раіса Раецкая сказала, між іншым, што была гэта вялікая трагедыя для сем'яў загінулых. У 1942-1943 гадах мала хто верыў у далейшае існаванне вёскі Райск. Амаль усе чынныя прафесійна людзі былі замардаваны, забудовы зусім спалены, а тыя, што засталіся ў жывых — запужаны зверскай формай акупацыйнага праўлення. Усё ж такі бязмежная любоў да бацькоўскай зямлі прычынілася да таго, што геройская вёска Райск адбудавалася. Войт запэўніла, што будзе дбаць пра памяць загінулых і выказала спадзяванне, што такія трагічныя падзеі не паўтораца ў будучыні.

Пастар Барбара Філер: «Адчуваю вялізны сум і яшчэ большы сорам за тое, што нямецкія злачынцы здзейснілі тут, у Райску. Такое зверства немагчыма забыць. Мы адказныя як народ і яго члены. Гавoрыцца, што час лечыць раны, але мы ўсе ведаем, што ёсць раны незагойныя. Тут, у Райску час памяці стаіць у месцы, мінулае не прамінае з часам, яно прысутнае. Схіляю галаву над усімі зверскі памардаванымі, выказваю глыбокае спачуванне ўсім сямейнікам і нашчадкам. Вечная памяць усім ахвярам гітлераўскіх злачынстваў».

Уладыка Грыгорый сказаў між іншым: «Мы молімся, каб памяць пра гэтых людзей была вечная, каб імёны гэтых людзей былі запісаны ў Нябёсах і верым, што наша малітва збудзецца. Нехта можа сказаць, што хрысціяне ў такіх хвілінах заўсёды прабачаюць, дык навошта ўспамінаць, вярэдзіць гэтыя раны. Помнім, бо гэта гістарычны факт і не можам пра яго забыць, але помнім пра гэта і таму, каб раны не зараслі подласцю. Чалавек, які ўважліва аналізуе гісторыю, задумваецца. І каб такое не паўтарылася, мы мусім вельмі аб'ектыўна задумвацца».

Прадстаўнікі ўлад і грамадскіх арганізацый усклалі на брацкай магіле кветкі, у іх ліку прафесар Алег Латышонак ад імя Беларускага гістарычнага таварыства. Ушанавала кветкамі памяць пакутнікаў і пастар Барбара Філер. Былі кветкі ад бельскай Гміннай рады, ад бельскай Управы горада, ад Маршалкоўскай управы, ад жыхароў Райска і іншых.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**





# Чыгунка абнаўляецца

Паездка ў Райск 16 чэрвеня стала нагодай прыглянуцца прагрэсу прац па абнаўленні гістарычнай Берасцейска-Граеўскай чыгункі. А дакладней — яе сярэдняга адрэзка паміж Бельскам і Беластокам. Паўночная яе частка — ад Беластока ў Граева — чакае больш светлая будучыня, бо мае яна стаць фрагментам новай чыгуначнай магістралі Rail Baltica.

Чыгуначны аўтобус на гумавых шынах забірае мяне з прыпынку Беласток-Стадыён. У салоне шмат народу — каля дваццаці чалавек; большасць з іх паедзе ў Бельск. Рэйкі на маім адпраўным прыпынку ўжо зняты. У Лявіцкіх на пуці ляжаць ужо веерам шпалы, але яшчэ без рэек. У Галоўках шпалы з рэйкамі, але пуць яшчэ няроўны. Тое ж самае ў Страблі.

Чыгуначны аўтобус спыняецца не толькі на раскладных прыпынках. З яго высаджваюцца пасажыры ў Рынках, у Дакторцах, у Страблі каля касцёла; у Плютычах аўтобус забірае пасажыра ў Бельск.

На задворках Страблі, з боку Плютыч, дзе раней ляжалі навенькія бетонныя шпалы, цяпер ляжаць шпалы старыя, драўляныя. Цэлыя павязаныя ў пучкі, а спарахнелыя скінутыя ў гурбу.

У Райску аўтобус спыняецца пасярэдзіне вёскі. Адразу падаюся ў напрамку чыгуначнага прыпынку Райск, бо ў паведамленнях партала Польскіх чыгуначных ліній, якія мадэрнізуюць чыгуначную інфраструктуру, было пра прыпынак Арэхавічы, а пра Райск не згадвалася; іду пабачыць, як там справы выглядаюць...

Прыпынак Райск надалей ёсць. Там рэйкі ўжо выцягнутыя як струна, на „смірна”, гатовыя прымаць цягнікі. Але перон астаўся без ніякуткіх змен, нізенькі, з драўлянымі бардзюрамі. На стэндзе новы расклад цягнікоў. Углядаюся на прыпынкі, ці Райск там астаўся, ці ўжо можа Арэхавічы заміж яго. Але на гэтым адрэзку ўсё па-старому. Затое між Бельскам і Чаромхай не заўважаю прыпынкаў Падбелле і Рыгораўцы. Аказваецца, што іх часова не будзе пасля 11 ліпеня, калі і там пачнецца рамонт пуцей. І ў той жа дзень цягнікі маюць зноў пакалясіць між Бельскам і Беластокам.

Вяртаюся ў Райск чыгуначным насыпам. Пуці ляжаць на высокай у паўметра падсыпцы са шчэбню. Дарогу перабягае лісіца. А далей, дзе крыху балота, у паветра ўзбіваюцца качкі і шэрая чапля. Чыгуначныя пераезды забяспечаны так сабе: з дарогі, што выходзіць з пачатку Райска ад Арэхавіч, ёсць крыж святога Андрэя, з дарогі, што выходзіць з сярэдзіны Райска ў бок Сталавача, апекі святога Андрэя не відаць...

Вяртаюся ў Беласток на пэкаэсаўскім аўтобусе, перасядаю ў гарадскі „104”, якім спадзяюся заехаць у мой раніўні адпраўны пункт каля чыгуначнага прыпынку Беласток-Стадыён. Не падазраваю нічога благога. Але за прыпынкам насупраць базару бачу на інфармацыйным табло, што наступны прыпынак у Сяродлессі. Нічога, думаю, яшчэ павінен быць прыпынак у Беластоку, бо ж часта на табло паказваюцца несапраўдныя інфармацыі. Але той гарадскі аўтобус, віляючы за базарам то ўправа, то ўлева, ад брамы вайсковай часці набірае скорасць, імчыцца па лесе і спыняецца два кіламетры за Беластокам. Не такая мне зноў бяда, бо цяпер буду мець магчымасць прайсціся па пуцях той жа нагляданай мною чыгункі.

У Сяродлессі, дзе таксама меў быць новы прыпынак, шпалы ляжаць доўгім веерам, без рэек. У нейкіх двухсот-трохсот метрах за Сяродлессем раздаецца з балота побач чыгуначнай лініі гучны ўсплёск, быццам там затрывожыўся нейкі кіт, бегемот ці алігатар. Але ж не — з балота спешна вылазіць двойка ласянят і дае драла ў лес. Крыху далей чарговая прыродная з'ява: на толькі што пакладзеныя шпалы паваліліся тры дрэвы. І валіліся яны парадкам ланцуговай рэакцыі. Спярша бяроза „вызваліла” свае карані з балоцістага грунту і навалілася на суседнюю асіну, папіхаючы яе на вольху і такім чынам гэтыя тры лясныя сястрыцы зваліліся разам на чыгуначнае палатно; і могуць паляжаць, бо цягнікам не замінаюць. Крыху далей канчаецца веер шпал. Яшчэ паўкіламетра і на прыпынку Беласток-Стадыён стаяць бульдозеры, якія расчышчаюць лінію са старой падсыпкі, скідаючы яе на абочыну чыгуначнага палатна.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (9)

З сям'ёю Уладзіміра Смактуновіча, бацькам Юркі і Васіля, парадніліся мы быццам блізкія суродзічы. Кожны раз, калі мы заязджалі ў вёску з кінаперасоўкай, мяне запрашалі на абед, а затым на начлег. Юрка памагаў бацьку ў гаспадарцы, а Васіль працаваў у заваддскай пажарнай камандзе на Хімічнай фабрыцы ў Гайнаўцы. Жыхары Тэрэміскаў складалі дружалюбную сям'ю. Хоць у сяле пражывала змешанае насельніцтва, не спатыкалася, каб каталікі ішлі наперакор праваслаўным, і наадварот. Свята адзначалі аднолькава, як каталіцкае, так і праваслаўнае. Моладзь калядавала перш-наперш 25 снежня на Божае Нараджэнне, выконваючы каталіцкія пастаралкі, а 7 студзеня — праваслаўныя калядкі. Арганізавалі супольнае святочнае застолле. Забавы і вячоркі таксама арганізавалі супольна. Кінаапаратар з шафёрам большасць вольнага часу праводзілі ва Уладзіка Вішнеўскага. Мяне таксама запрашалі ў сваю кампанію, паколькі дочкі Тэрэза і Ванда стварылі кампанію для спрэчак. Пасля малодшая Тэрэза паехала ў госці да цёткі ў Францыю. Выйшла замуж. Засталася старэйшая Ванда, з якою надалей ладзілі сяброўскія кантакты. У палове сямідзясятых гадоў Юрка Смактуновіч ажаніўся з дзяўчынай са Скупава, Лідкай. Мяне папрасілі за дружбу. Не ведаў я, як сябе паводзіць, паколькі не прыходзілася быць



на такой урачыстасці ў наваколлі Белавежы. Калі падаваўся я з мясцовымі дружбамі на кавалерскі вечар, узяў з сабою бутэльку гарэлкі, бо ў Кузаве такая традыцыя. Усе мужчыны ў нас бралі на вяселле гарэлку, а жанчыны — муку, яйкі і цукар, на каравай. У Тэрэміскаў такая звычка не практыкавалася. У цырымоніі царкоўнага абраду не ўдзельнічаў, адно на зашлюбінах. Абавязкі кіношніка не дазволілі.

У Тэрэміскаў сардэчныя суадносіны ладзілі з мясцовымі настаўнікамі, а перш за ўсё з кіраўніком школы Тадзікам Вішнеўскім. Часта заходзіў ён да нас у машыну і супольна вялі дыскусіі на розныя тэмы. Прыпамінаецца мне адно незвычайнае здарэнне. Аднойчы зайшоўшы я ў канцылярыю і сустрэў незнаёмца. Кіраўнік адрэкамендаваў яго як новага настаўніка. Прозвішча, на жаль, забылася. Пасля ранішняга сеанса для школьнікаў „навічок" зайшоў у машыну. З сабою забраў гармонік. Запрэзентаваўшы свае музычныя ўмеласці, перайшоў да гумарыстычных „кавалаў". А трэба прызнаць, што ў гэтым майстэрстве не было яму роўных. Сыпаў анекдотамі адзін за адным, час ад часу заглядваў адно ў маленькі блакноцік. Гэта быў ягоны даведнік са спіскам гумарэсак. Хутка зляцеў час у вясёлай кампаніі. Гэта была наша першая і апошняя сустрэча з настаўнікам-гумарыстам у Тэрэміскаў. Калі заехалі чарговы раз у школу, не заспелі нашага кампаньёна. Тадзік Вішнеўскі выявіў, што міліцыя яго арыштавала. Незнаёмец прыехаў з Узбярэжжа і лічыў, што схаваецца ў глушы Белавежскай пушчы. Шукала яго аддзяленне крымінальнага вышуку за ўчыненае ім злачынства. Гайнаўскі аддзел культуры і асветы не выканаў абавязку праверкі дакументаў і ўладкаваў на працу злачынца.

У час летніх канікулаў мы не арганізавалі сеансаў для школьнікаў. Вольны час у Тэрэміскаў праводзілі на прагулках. Арганізавалі рыбалку ў адгалінаванні рачулкі, якая ўліваецца ў раку Нараўку. Мясцовых школьнікаў бралі мы на праваднікоў. Хлапчукі паказвалі нам месцы, дзе траплялася рыба. Спецыялістам па рыбалцы быў шафёр Уладзік Скепка. Шнырыў пры берагу пад нявісамі, дзе ў норках хаваліся ментузы, акуні ды плоткі. Палову вядзерца налавіў, смажылі пасля на нафтавым прымусе. Смакавітая была ежа.

У шасцідзясятыя гады ў Тэрэміскаў Тэрытарыяльная абарона краіны арганізавала лагер у лесе. Мы для жаўнераў дэманстравалі кінасеансы. Там я сустрэў школьнага калегу з Чаромхі, які быў камандзірам аддзялення (дружыны). Была нагода паўспамінаць школьныя гады. А з Мікалаем Янушыкам, бо аб ім тут гаворка, звязвала нас неразлучная дружба. Гуляў я на ягоным вяселлі ў Чаромсе.

З Тэрэмісак па маршруце мы падаліся ў Арэшкава.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**




Ёсць у цэнтры Беларусі горад, гісторыя і сучаснае існаванне якога заўсёды выклікалі зацікаўленасць — гэта Бабруйск, што знаходзіцца ў Магілёўскай вобласці. З'явіўся ён даволі даўно і, па розных звестках, нават меў Магдэбургскае права. Аднак дагэтуль гісторыкі не даюць адказу нават пра тое, якім быў тагачасны герб Бабруйска. З XIX стагоддзя горад найбольш вядомы сваёй крэпасцю, дзе калісьці адбывалі пакаранне паўстаўшыя супраць расійскага імператара афіцэры-„дзекабрысты". Ад савецкіх часоў і цяпер вядомасць Бабруйску надае прамысловасць, а менавіта шынны камбінат „Белшына", які „абувае" колы самых разнастайных аўтамабіляў. Праўда, акрамя навін, звязаных з прамысловасцю, у горадзе ёсць і іншыя, пра якія распавядае, у прыватнасці, сайт „Бабруйскі часопіс". Ён месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://babruisk.by**.

Варта адзначыць, што Бабруйск — адзін з найбольш зрусіфікаваных гарадоў Беларусі. Адной з прычын яго — існаванне ў горадзе яшчэ ад савецкіх часоў вялікай колькасці вайскоўцаў, дзеці якіх не павінны былі нават вучыць беларускую мову. У той жа час „Бабруйскі часопіс" стараецца быць беларускамоўным. Аб тым, як яму гэта ўдаецца, можна пабачыць, зазірнуўшы на сайт інтэрнэт-выдання.

Найбольш каштоўнай акалічнасцю сайта з'яўляецца тое, што навіны там выключна бабруйскія, таксама як і тэматычныя расповеды. Гэта вельмі важна, асабліва калі ўлічыць, што многія мясцовыя сайты часцяком займаюцца папросту перадрукам з даступных інтэрнэт-крыніц агульнабеларускай і міжнароднай інфармацыі.

Галоўная старонка сайта выглядае пасучаснаму — выйсці да рубрык месяцца толькі ўверсе выяўлення, але калі „пракруціць" старонку зверху ўніз, то можна пабачыць усе іх з анонсамі артыкулаў. Усяго на сайце некалькі рубрык — „Рэчаіснасць", „Мінулае", „Асоба", „Навіны".

„Рэчаіснасць" з'яўляецца адным з найцікавейшых раздзелаў сайта. Тут да ўвагі карыстальнікаў расповеды пра сучасныя бабруйскія падзеі пададзены не кароткімі паведамленнямі, а годнымі аналітычнымі і публіцыстычнымі матэрыяламі. У іх уздымаюцца сапраўды вострыя праблемы, пра якія не заўсёды можна прачытаць на старонках праўладнай прэсы. Так, з сайта можна даведацца аб тым, што вандалы расцягваюць аўтэнтычную цэглу з помніка архітэктуры і гісторыі — Бабруйскай крэпасці, якая стаіць без нагляду, што ў Бабруйску працягваецца прымусовая практыка запаўнення канцэртаў людзьмі, што ў горадзе (як дарэчы і шмат дзе ў Беларусі) дзяржаўны сцяг часцяком трымаюць дагары нагамі.

„Мінулае" — гэта не толькі тэксты на гістарычную тэматыку. Так, пільныя мясцовыя краязнаўцы заўважылі, што зараз на банэрах, якія рэкламуюць святочныя мерапрыемствы прысвечаныя 630-годдзю Бабруйска, за Бабруйскую крэпасць выдаецца крэпасць у Замосці Люблінскага ваяводства. А ў артыкуле пра недалёкую ад горада вёску Красны Бераг наведвальнік сайта пазнаёміцца з яе славутасцямі.

Назва рубрыкі „Асоба" гаворыць сама за сябе. Там у большасці прадстаўлены людзі, якія так ці інакш звязаны з Бабруйскам. У дадзенай рубрыцы праяўляецца, бадай, адзіны недахоп „Бабруйскага часопіса" — надта мала артыкулаў у ім на беларускай мове.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Беларускі літаратар, праваслаўны святар



## 105 гадоў з дня нараджэння
# Пятро Бітэля

Беларускі пісьменнік, паэт, перакладнік, педагог, праваслаўны святар Пятро Бітэль нарадзіўся 19 чэрвеня 1912 г. у мястэчку Радунь (цяперашні Воранаўскі раён). Паходзіў з сям'і паштальёна. Ахрышчаны ў Лідскім Сьвята-Міхайлаўскім праваслаўным саборы. Калі сям'я была ў бежанстве ў час вайны, наведваў у Расіі школу. Пасля вяртання ў Беларусь хадзіў у Вішнеўскую школу (Валожынскі раён). З 1925 г. вучыўся ў Барунскай настаўніцкай семінарыі. Пазней — у Віленскай беларускай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў у 1931 г. Пэўны час кароткімі перыядамі настаўнічаў на Нясвіжчыне (1931-1933 гг.). У 1933-1934 гг. служыў у польскім войску. У 1935-1939 гг. — загадчык пачатковай школы ў вёсцы Даўгінава (Карэліцкі раён), актыўна ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці.

У верасні 1939 г. Пятро Бітэль мабілізаваны падпаручнікам зноў у польскае войска. Браў удзел у баях з фашыстамі. У Берасці трапіў у савецкі палон. Вывезены ў расійскі Арзамас, дзе быў вызвалены і ўрэшце вярнуўся ў Беларусь. У 1940 годзе працаваў настаўнікам у Вішневе, пасля дырэктарам сямігадовай сярэдняй школы № 2 у Валожыне, інспектарам-метадыстам раённага аддзела адукацыі. Пасля чэрвеня 1941 г. да 1942 г. хаваўся ад немцаў. Пасля стаў настаўнікам гандлёвай школы ў Валожыне. У 1944 г. з сям'ёй вывезены ў Нямеччыну па падазрэнні ў сувязях з партызанамі. Па дарозе ў выніку аварыі цягніка ўдалося ўцячы. Жыў з сям'ёй у Кашаліне, апекаваўся дзецьмі, якія былі вывезены з Беларусі. У траўні 1945 г. мабілізаваны ў Чырвоную Армію. У пачатку 1946 г. вярнуўся дамоў, працаваў настаўнікам у вёсцы Забрэззе Валожынскага раёна. Але ўжо ў 1947 г. звольнены з настаўніцкай працы па палітычных матывах. Скончыў падрыхтоўчыя царкоўныя курсы ў Жыровіцкім манастыры і стаў праваслаўным святаром. Служыў у царкве вёскі Міжэвічы, з 1949 г. — у Докшыцах на Віцебшчыне. У 1950 г. арыштаваны і засуджаны на 10 гадоў савецкага канцлагера. Зняволенне адбываў у Камышлагу Кемераўскай вобласці, Омску, Джэзказгане (Казахстан). Вызвалены з канцлагера толькі ў 1956 г. Быў праваслаўным святаром на Гомельшчыне да 1962 г., калі зноў трапіў пад пераслед. У 1963-1974 гг. працаваў настаўнікам нямецкай мовы і малявання Вішнеўскай школы. Дачакаўся рэабілітацыі толькі ў 1978 г.

Як літаратар Бітэль друкаваўся з 1929 г. у часопісе „Шлях моладзі" пад псеўданімам Леанід з-пад Вішнева. Артыкулы на педагагічныя тэмы друкаваў з 1937 г., вершы — з 1939 г. Завочна скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філфака Мінскага педагагічнага інстытута. Пятро Бітэль — аўтар паэм „Замкі і людзі" (1968), „Сказанне пра Апанаса Берасцейскага" (1984). Пераклаў на беларускую мову творы Адама Міцкевіча „Пан Тадэвуш", „Конрад Валенрод", „Гражына", „Дзяды", „Крымскія санеты", польскамоўныя паэмы і п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, аповесць Юзафа Крашэўскага „Хата за вёскай", асобныя творы Марыі Канапніцкай, Баляслава Пруса, Юльюша Славацкага, Генрыка Сянкевіча, Міхаіла Лермантава, Аляксандра Пушкіна, Івана Франко, Тараса Шаўчэнкі, Бяртольда Брэхта, Ёгана-Вольфганга Гётэ, Фрыдрыха Шылера, іншых. Рукапіс перакладу паэмы „Пан Тадэвуш", зроблены Бітэлем у савецкім канцлагеры на паперы з мяшкоў з-пад цэменту, захоўваецца ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Памёр Пятро Бітэль 18 кастрычніка 1991 г. у Маладзечне. Пахаваны ў Вішневе.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Ткалля Ірэна



Яшчэ не звяліся ткачыхі ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. Адна з іх — Ірэна Ігнацюк са Старога Ляўкова. Раней ткала на кроснах яе бабуля ды пасля яе маці Яўгенія.

Спадарыня Ірэна актыўна займаецца ткацтвам. Кросны стаяць напагатове ў яе хаце ўвесь год. Тчэ яна прыгожыя дываны, плахты, капы, ходнікі ды г.зв. пераборы. Зараз тчэ пераборы на самых шырокіх кроснах. Падбірае для гэтага розныя ўзоры. Яна ўвесь час у пошуках за імі. Даспадобы ёй колішнія ўзоры, якія маюць, між іншым, плахты бабуль і прабабуль. Яна вучыць ткацкаму майстэрству ўсіх ахвотных. Прыязджаюць да яе на навуку жанчыны нават з паўднёвых ваяводстваў нашай краіны. Павядзе яна майстар-класы ўжо неўзабаве — 27 чэрвеня гэтага года.

Варта дадаць, што адзін Ірэнін дыван знаходзіцца на пастаяннай выстаўцы ў Цэнтральным музеі ткацтва ў Лодзі. Вось і гэтым яна можа ганарыцца.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# V Сямейны пікнік з нагоды Дня дзіцяці ў Орлі

У нядзелю, 4 чэрвеня, пры Комплексе школ у Орлі адбыўся вясёлы сямейны пікнік. Было многа атракцыёнаў, паспрыялі надвор'е, удзельнікі і публіка.

Пра мерапрыемства для дзяцей распытаў я дырэктар арлянскага Гміннага асяродка культуры Анну НЕСЦЯРУК.

— Першыя такія мерапрыемствы сталі ў нас ладзіць у 2008 годзе. Гмінны асяродак культуры ў Орлі пачаў арганізаваць святкаванні Дня дзіцяці заўсёды 1 чэрвеня, не зважаючы на дзень тыдня. Да 2012 года гульні, тэатральныя пастаноўкі, мастацкія конкурсы ды выступленні дзіцячых калектываў ладзіліся на плошчы перад Асяродкам. У 2012 годзе, калі пры арлянскай школе паўстаў спартыўны комплекс „Орлік", мы, як галоўны арганізатар разам з арлянскімі Управай гміны і Комплексам школ пачалі арганізаваць сямейны пікнік з нагоды Дня дзіцяці. З таго часу мерапрыемства заняла большы размах, было больш грошай у нашым бюджэце, таксама з вялікай дапамогай гміннай антыалкагольнай камісіі — стала магчымай арганізацыя вялікага пікніка, у якім маглі ўдзельнічаць цэлыя шматпакаленныя сем'і. А ад двух гадоў да гэтага мерапрыемства далучылі яшчэ і турнір маладых футбалістаў за кубак ветраэнергетычнай фірмы „Eurowatt" пад патранажам нашага войта, у якім заўсёды ўдзельнічае пяць каманд (сёлета дзеці народжаныя ў 2008 годзе): дзве каманды з Беластока — Гарадскога асяродка футбольнага абучэння „Ягелонія" ды Лясной футбольнай акадэміі, дзве каманды з Бельска-Падляшскага — Акадэміі футбольных талентаў „Брыльянт" і Гарадскога асяродка спорту і рэкрэацыі ды „Грыфік" з Гарадка. Сёлетняе заўзятае змаганне маладых спартсменаў закончылася перамогай маладой змены беластоцкай „Ягелоніі". Былі абраны найлепшыя гульцы, якія былі ўзнагароджаны ад фірмы „Eurowatt".

Былі атракцыёны і ў другой частцы пікніка. Апрача надуўнога пакату, кросу па надуўных шарах ды ў лабірынце, нямала радасці даставілі пажарнікі-дабравольцы, прэзентуючы тушыльныя прыборы і ладзячы віктарыну.

Сваё тэхнічнае абсталяванне паказала наймалодшым таксама пагранзастава з Дубіч-Царкоўных. Захапленне выклікала таксама зумба ў выкананні вучняў нашай школы, маляванне твараў ды паказ тэквандо. У ходзе мерапрыемства быў завершаны мастацкі конкурс, ладжаны арлянскім аддзелам бельскага Кааператыўнага банка пад лозунгам „З якой мэтай зберагаю ў сваю скарбонку".

Арганізатары парупіліся таксама і за нёбы ўдзельнікаў пікніка, прапануючы смакавітыя каўбаскі і бігас; былі і салодкія ласункі.

Наша імпрэза з году ў год набірае размаху. Мерапрыемства плануем на цэлы дзень, пачалося яно а 10-й гадзіне а завяршылася а 16-й. Мы, як арганізатары, спадзяваліся прысутнасці звыш паўтысячы асоб; і столькі было, а можа і больш. Відаць было, што прыехалі людзі з Бельска і Гайнаўкі. Дзякуючы фірме „Eurowatt" маем вельмі атракцыйныя ўзнагароды, напрыклад, летась былі футбольныя мячы. Кожны ўдзельнік турніру атрымлівае медаль, гаджэты. Працаўнік ГАК Адам Багдановіч таксама вядзе спартыўныя гульні і забавы для дзяцей, якія заўсёды атрымліваюць узнагароды — кніжкі, цукеркі, даўгапісы, запіснікі — усё такое, што дзеці любяць — такія прынады да спаборніцтва.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# У шпіталі з „Нівай"

З 22 траўня знаходжуся на рэабілітацыйным аддзяленні гайнаўскага шпіталя. Цяжка прыходзіцца актыўнаму карэспандэнту быць ізаляваным у чатырох сценах бальнічнай палаты. Праўда, знайшліся кампаньёны. Спаткаў калег пасля трыццацігадовага расстання. Нават і больш. Не хапае мне штодзень камп'ютара, лічбоўкі, пісання кірыліцай тэкстаў ды пасылання іх у рэдакцыю па электроннай пошце. Таксама не хапае штодзённых навінак на фейсбуку ад сяброў, якіх атрымліваў дзясяткі дома. Без камп'ютара мне ў шпіталі як без рук. Дамовіўся я, праўда, з загадчыкам аддзялення, што зможа мне дапамагчы перасылаць допісы факсам у рэдакцыю, але гэта лішнія складанасці рэдакцыі з перапісваннем маіх тэкстаў у электронную форму. Не магу бяздзейнічаць, калі навокал мяне шмат цікавых людзей і тэм для публікацыі. Затым раблю запіскі ў сваім дзённіку, каб пасля перанесці іх на старонкі „Нівы". Зараз свой тыднёвік я куплю ў шпітальным кіёску. Ёсць даступны. Таму я сістэматычнаназіраю, што дзеецца на ніўскім панадворку. З апошняга нумара даведаўся, што 18 чэрвеня ў Ставішчах быў арганізаваны беларускі фэст з цыкла „І тут жывуць людзі". Шкадую, што не змог у ім удзельнічаць, прывітацца з сардэчнымі сябрамі, арганізатарамі сужэнствам Агнешкай і Тамашом Ціханюкамі, вядучымі Марыёляй і Паўлінай, гуртом «Арт-Пронар», з Янкам Снарскім ды прыгажунямі з „Калінкі", якіх узначальвае сардэчны калега Марыюш Харужы. Шлю ім пры гэтай нагодзе самыя лепшыя прывітанні і кажу: „Я яшчэ жыву!" Затым да хуткай сустрэчы!

**Уладзімір СІДАРУК**

## СПАЧУВАННІ

По прычыне напаткаўшага гора – **смерці брата Міраслава – Яўгену Вапу** перадаем шчырыя словы спачування і падтрымкі

– рэдакцыйны калектыў „Нівы"

## Адгаданка

**1.** праекцыйны апарат, **2.** веснавы колер, **3.** грэчаскі матэматык з Аляксандрыі, адзін з заснавальнікаў класічнай геаметрыі (Еў...), **4.** манаршае крэсла, **5.** порт на захадзе Турцыі, у старажытнасці Смірна, **6.** напрыклад Луўр, Прада, Эрмітаж, **7.** ганаровае месца ў хаце пад абразамі, **8.** палітыка запалохвання шляхам насілля аж да фізічнага знішчэння.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | | | | | 3 |
| | | | 4 | | | | | |
| | | | | | 5 | 6 | | |
| | | | | | | | | 7 |
| | | | | 8 | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

Будова, Елісей, пена, Пуцін, рада, стан, шаг.

Рашэнне: **Не сей пшаніцу наперад дубовага ліста.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

## 25.06 — 01.07

**(22.03. — 20.04.)** Не стаў спраў рубам. Прытармазі лішнія амбіцыі, усё пойдзе сваім шляхам. 25-29.06. добрае адчуванне сітуацыі і задум людзей. Можаш разлічваць на знаёмых. 29-30.06. добра зачыняй дзверы і не адчыняй незнаёмым. Карысныя прапановы, нават з выездам за мяжу, але няхай твае спадзяванні не будуць лішне высокімі 25-28.06., каб гэта не абярнулася супраць цябе. Здароўе памалу стабілізуецца.

**(21.04. — 21.05.)** Да 26.06. развінеш крылы і пачнеш больш зарабляць. У пары адробіце страчаны час. Але сумненні і песімізм могуць цябе ахапіць 27-30.06. Акружаць цябе сябры. Добры час на здаванне экзаменаў, вучобу. Быкі з першай дэкады выклічуць вялікую зацікаўленасць другога полу. Праўвер, што табе шкодзіць з ежы.

**(22.05. — 22.06.)** Мноства інспірацый, задум. Будзе табе здавацца, што не падабаешся, але здабудзеш усё, што хочаш. Не раздумвай пра былое, пра тое, што не вернецца і можа лепш, каб яно не вярнулася. Дома выкінь старыя папсаваныя рэчы або штосьці развалі, каб збудаваць новае. На працы пакуль застанься пры добрых старых прыёмах. Не прабуй новых „цудоўных" спосабаў на залатыя заробкі. Варта вучыцца новаму, развівацца, наладжваць службовыя кантакты, таксама за мяжой.

**(23.06. — 23.07.)** Паявяцца новыя шанцы і перспектывы. Будзеш мець вялізную адвагу і фантазію, асабліва 25-29.06., але многа нерваў можаш страціць 29-30.06. Маеш шанцы паправіць свой рэйтынг на працы і павялічыць фінансы. Не страшны будзе табе ніякі высілак, але спачатку разагрэйся і расцягніся, нават перад работай на градцы.

**(24.07. — 23.08.)** Твае справы пойдуць урэшце па тваёй думцы, хаця мусіш разлічваць выключна на сябе самога. Новыя знаёмствы мала абяцаюць; нават калі табе хтосьці вельмі спадабаецца, апрача вонкавай красы не будзе мець нічога больш цікавага. Калі не ўдаецца табе на працы, змяні стратэгію або адкладзі справу, неўзабаве акалічнасці паспрыяюць.

**(24.08. — 23.09.)** 25-26.06 маеш найбольшыя шанцы на любоўнае зачараванне. 26-28.06. цяжка будзе задаволіць патрабавальнага шэфа, але табе можа ўдасца, што не мусіць спадабацца зайздросным калегам. 26-30.06 можаш перамагчы кожную перашкоду. 29-30.06. не дай уцягнуць сябе ў канфлікт, які цябе не датычыць. Добра высыпайся.

**(24.09. — 23.10.)** Крыху нерваў, можаш паблытацца ў сваіх эмоцыях. Але Сатурн пакажа табе адпаведны напрамак. 26-28.06. не выхваляйся, бо хтосьці схоча гэта праверыць. Шалі з другой дэкады могуць падумаць пра шлюб, уласнае жыллё або павелічэнне сям'і. Магчымы выйгрыш з канкурэнцыяй.

**(24.10. — 22.11.)** Дасі рады з усімі выклікамі 26-30.06. Але няхай твае дзеянні будуць абдуманыя, асабліва 25-28.06. 25.06. можаш трапна і хораша прадставіць сваю ідэю. 25-26.06. можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто зробіць на табе вялікае ўражанне. 29-30.06. не слухай кепскіх дарадчыкаў.

**(23.11. — 22.12.)** Вельмі добрыя адносіны з людзьмі. Пераможаш старыя комплексы, зменіш схемы. Разумныя рашэнні прынясуць прыбыткі. 25-28.06. не змагайся з „ветракамі" — нязбытнымі мроямі. Стральцы з трэцяй дэкады — пара на сямейныя рашэнні. Садзі расліны, апякуйся агародам.

**(23.12. — 20.01.)** Ты душа кампаніі, рухавік імпрэз. Ажыўленне ў пачуццях. 25-26.06. самотныя Казярогі: гарачы раман! Але не распавядай аб тым, плёткі могуць усё знішчыць. 25-28.06. не правакуй сваіх праціўнікаў. Не думай пра тое, як цябе ацэняць: рабі, што ўмееш як найлепш, часам ідзі супраць цячэнню, прабуй новыя прыёмы і рашэнні — гэта можа прынесці цікавыя рэзультаты 26-30.06.

**(21.01. — 19.02.)** Жыццё стане лягчэйшае і цікавейшае дзякуючы людзям, якія цябе заінспіруюць і дапамогуць у патрэбе. Зоркі паправяць табе настрой, ахаладзяць тэмпературу ў пары, але памогуць у інтарэсах, падтрымаюць у цяжкіх выбарах ды абяцаюць лады ў бізнесе.

**(20.02. — 21.03.)** 25-29.06. твае ворагі зыдуць з тваёй дарогі. Жыццё будзе цікавай прыгодай. Добра ў супрацоўніцтве і фінансах, але не перацэньвай сваіх магчымасцей. Дома спраўна пакіруеш усім, асабліва справамі практычнымі. Будзе бачна, колькі ўдалося табе зрэалізаваць з запланаванага, заінвеставанага. За зароблене купі добрую мэблю.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва — ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (90)


Ільнскі сабор і Тарас Шаўчэнка

Ці легенды пра прывідныя іконы на Святым возеры, што ля сяла Тур, не захоўвалі сімвалічнай памяці пра іканапісную школу, якая ўзнікла напрыканцы XIII стагоддзя і праславіла Ратненскае княства?

На месцы ніхто не ўмеў аднесціся да майго пытання.

— Гэта ж было за цара-гароха, — чуўся адзін адказ. — Бог адзін ведае, як яно было!

Палескія недавер'і і сумненні гэта яшчэ падарунак ад маці-прыроды, якая выдатна дапамагае ў прыбіранні гістарычных слядоў. Вось у самым Ратным ніхто дакладна не ведае як выглядаў іх сярэднявечны замак, які займеў славу недаступнага фарпоста. Замак з каменнай вежай, як даказваюць гісторыкі, літаральна праваліўся пад зямлю. Усё з-за таго, што ён быў узведзены між рукавамі Прыпяці, на насыпаным кургане, пад якім бушавалі вадацёкі. На Ратненшчыне падобныя з'явы адбываюцца і ў наш час, найчасцей пад зямлю правальваецца фрагмент лесу, а яго вяршаліны яшчэ доўгі час выглядаюць з вады, пакуль не ўзнікне новае возера або балота...

Іканапісныя майстэрні верагодна маглі існаваць не толькі ў Ратным, але і ў недалёкіх мясцінах Рай ды Тур. Як паказваюць археалагічныя знаходкі, Тур быў вядомы ў дахрысціянскія гады з-за культу Вялеса. Гэтага язычніцкага бога пладавітасці палешукі ўяўлялі якраз пад выглядам быка тура. На месцы паганскага капішча была пабудавана царква, якая пасля знікла ў таемных абставінах. Паводле легенды, яна правалілася пад зямлю з-за грахоў вернікаў, а пасля стала возерам. Праўда, падобныя легенды я сустракала на Палессі што крок, аднак толькі ў Туры выступілі іконы. Яны выплывалі на люстра вады разам з усходам сонца ў Вялікдзень ды загараліся боскім бляскам. Здавалася, турскі метафізічны пераказ прасіў шырэйшага асвятлення і ўвагі.

Сёння, дзякуючы легендарнай царкве, над берагам возера стаіць драўляны крыж. У летні разгар, быццам па прычыне старых, язычніцкіх абрадаў, сюды прыбываюць натоўпы моладзі, каб пакупацца ў лагодных, чыстых тонях возера. У возеры Святым разам з разахвочанай кавалеркай купаліся каровы і коні, каб разам прамовіць першабытнай, неардынарнай карцінай раю. Але не гэта здзіўляла найбольш. Агаленыя да купальнікаў дзеўкі і юнакі, калі пераходзілі ля крыжа, пакланяліся яму і набожна жагналіся.

* * *

Дзейнасць святога Пятра Ратэнскага выпадае не ў цямныя часы цара-гароха, а ў пісьменны, гістарычны перыяд, які разам з жыхарамі Ратненшчыны дзялілі нашы падляшскія продкі. Пра падзеі тых часоў піша Галіцка-Валынкі летапіс. Менавіта ў 1287 годзе князь Уладзімір Васількавіч, той самы які падарыў ікону Пятра для бельскай замкавай царквы, разам з епіскапам Ратна наведаў княжае места Рай, каб памаліцца за цудоўнае аздараўленне. Даследчыкі мяркуюць, што рэлігійны цэнтр у мясціне Рай (сёння Яравішча) заснаваў сам Пятро дзесьці каля 1280 года. Тут на высокім, пясчаным берагу Прыпяцці, дзе збягаюцца прытокі рачулкі Ратэнь, узніклі пустэльні і манашыя келлі. Пятро як ігумен праслаўлены духоўнымі подзвігамі. Агіёграфы адзначаюць, што «ён заўсёды быў ласкавы, добры і міласэрны для ўсіх, а сам сябе лічыў найніжэйшым сярод найніжэйшых». Да таго прыдбаў славу таленавітага іканапісца і натхнёнага красамоўца. Паслухаць яго пропаведзі прыязджаў народ з далёкага наваколля. Яго іконамі прыязджалі мясцовыя цэрквы, а таксама абдароўвалі знамянітых гасцей, якія наведвалі Ратна. Вось у канцы XIII стагоддзя ў Ратненскі манастыр прыбыў мітрапаліт Кіеўскі і ўсёй Русі, Максім. Пятро атрымаў ад яго блаславленне ды ад шчырай душы падараваў яму сваю ікону Божай Маці. Агіёграфы адзначаюць, што саноўнік прыняў ікону з любоўю, прыздобіў яе золатам і каштоўнымі камянямі ды да канца жыцця трымаў у сваёй келлі.


Крыж ля возера Святога ў Туры

Кажуць — няма выпадковых сустрэч! Сустрэча з мітрапалітам Максімам стала вызначальнай не толькі ў жыцці Пятра. Усё дзякуючы іконе, якая хоць і апынулася ў іншых руках і месцы, быццам пуцяводная зорка вызначала далейшыя шляхі Пятра і адмяніла гісторыю Царквы.

* * *

Падзеі пакаціліся вокамгненна. У 1305 годзе памёр мітрапаліт Максім. Пад пагрозай мангольскіх набегаў і знішчэнняў Максім як першы кіеўскі мітрапаліт яшчэ ў 1285 годзе пераехаў ва Уладзімір-на-Клязьме.

Тым часам у Галіцка-Валынскім княстве вырас новы палітычны і духоўны цэнтр. Юры I Львовіч, князь Валынскі і Галіцкі, які засеў на замку ў Луцку, звярнуўся да патрыярха Канстанцінопаля, Афанасія, каб той падняў Галіцкую епархію да статусу мітраполіі. І атрымаў згоду. Першым мітрапалітам Галіцкім, стаў Ніфант, аднак праект самастойнай мітраполіі апынуўся ў складаным становішчы. У 1303 годзе памёр Ніфант. Два гады пасля памёр Максім. Абедзве мітрапалічыя вакансіі сталі вакантнымі. Тады князь Юры I Львовіч, давяраючы аўтарытэту Пятра Ратэнскага, выправіў іканапісца ў Канстанцінопаль, каб патрыярх Афанасій зацвердзіў яго на мітрапаліта Галіцкага. Прыблізна, у адзін час, з падобнай мэтай, з Уладзіміра-на-Клязьме ў Візантыю падаўся ігумен Геронцій. У далёкую паездку ён забраў з сабой усе мітрапалічыя знакі, пячаці і ікону Багародзіцы, якая знаходзілася ў келлі памерлага Максіма.

Агіёграфы адзначаюць, што Геронцій надта спяшаў, каб першым прыбыць у Канстанцінопаль, але на Чорным моры яго спыніў дзікі шторм. Трэба было шмат часу, каб адрамантаваць яго карабель. Тады менавіта з'явілася ў сне Божая Маці з іконы напісанай Пятром і абвясціла, што мітрапалітам Кіева і Русі стане ігумен Ратэнскі, які сваімі дзеяннямі падыме аўтарытэт Царквы і стане яе добрым пастырам. Летапісцы прыводзяць словы Геронція, які адрэагаваў на навіны пачутыя ў сне і лаканічна заявіў: «Браты, дарэмна мы клапоцімся, мы не атрымаем жаданага».



Фрагмент стэнда з Нябеснай сотняй

* * *

Далейшыя шляхі дзівоснага цудатворцы здаваліся яшчэ больш палескія, а сучаснае Палессе яшчэ больш старажытным і візантыйскім. Сярэднявечныя цуды, якія здзяйсняла Божая Маці з іконы, здаваліся ў гэтым закутку зямлі звышрэальнымі і адначасова цудоўнымі. Ніхто ў іх не сумняваўся, не пярэчыў.

Калі Пятро з дапамогай марской стыхіі, апярэдзіў свайго канкурэнта да мітрапольнага прастола і з'явіўся перад патрыярхам Афанасіем, зноў здзейсніліся цуды. Агіёграфы адзначаюць, што ў час, калі ён пераступіў парог рэзідэнцыі патрыярха, увесь прыёмны зал напоўніўся цудоўным водарам. *І зразумеў Духам Святым патрыярх, што гэтым благаўханнем, абвешчаная святасць кандыдата* ды ў час свяшчэнага сабору была здзейснена блажэнная і тайная служба, у час якой паставілі Пятра Ратэнскага мітрапалітам Кіеўскім і ўсёй Русі. Ігумен Геронцій, які прыплыў са спазненнем, быццам на шапачны разбор, быў не надта ветлівага прывітання. У яго адабралі мітрапольныя знакі і пячаткі, забралі ікону Божай Маці і ўсё гэта даручылі Пятру, божаму чалавеку.

Што адчуваў новы мітрапаліт, калі ў руках зноў трымаў сваю ікону, напісаную ля берагоў Прыпяці? Гэты выбар шмат каштаваў у палітычным сэнсе яго радзіму. Год 1308 не быў шчаслівым для валынскіх князёў. Разам з намінацыяй Пятра на Кіеўскі і ўсяе Русі мітрапольны прастол была скасавана Галіцкая мітраполія.

Пятро вяртаецца ў Кіеў, аднак неўзабаве з-за пагрозы татарскай і літоўскай навалы з'язджае ва Уладзімір-на-Клязьме. У 1325 годзе князь Іван Каліта запрашае яго на мітрапольную кафедру ў Маскву. З таго часу пачынаецца новы этап Праваслаўнай царквы, а Кіеўская мітраполія стане Маскоўскай.

Сёння ва ўмовах украінска-рускай вайны, асоба Пятра ўспрымаецца неадназначна. У Ратным не давяраюць у яго існаванне. Насупраць новазбудаванага Ільінскага сабора стаіць помнік Тарасу Шаўчэнку і стэнд новых герояў — Нябеснай сотні, удзельнікаў Майдана, якія загінулі ў час рэвалюцыі 2014 года. Сярод іх маладзенькі беларус Міхась Жызнеўскі з Гомеля. І ўсё зразумела. Новы сабор, пастаўлены на месцы сярэдневяковай царквы, што мабыць памятала Пятра, не кананічны — ён пад Кіеўскім патрыярхатам.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 26